# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

24 мая 2019 года №21 (1256) 18+






старонка 19

Фота забяспечанае Андрэем МІКУЛЬЧЫКАМ.

# Што Андрэй Мікульчык пераняў з Італіі ў Маладзечна

## Чаму Еўрасаюз дае мільёны еўра для развіцця Беларусі? «РГ» пабывала на юбілейным саміце Усходняга партнёрства

старонкі 20-21

## Дзе ў Маладзечне можна было бясплатна апрануцца? Рэпартаж з першага сёлетняга фрымаркету

старонка 3




ISSN 1991–7155
9 771991 715006 190021


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# На рэканструкцыю могілак выдзелілі чатыры тысячы еўра

## Як на Валожыншчыне добраўпарадкавалі могілкі Першай сусветнай вайны

ВАЛОЖЫН

**У вёсцы Дзяятнікі пад дэвізам «Прымірэнне над магіламі – праца ў імя міру» рэканструявалі могілкі Першай сусветнай вайны.**

Ужо 11 гадоў удзельнікі праекта рэстаўруюць могілкі ў Беларусі, Польшчы, Латвіі, Румыніі, Расіі. Праект фінансуецца Auswärtiges amt der BRD (Міністэрствам замежных спраў ФРГ).

**Сёлета на праект выдзелілі чатыры тысячы еўра. За іх набываюць матэрыялы для добраўпарадкавання, харчуюцца, аплачваюць жыллё.**




Адрэстаўраваная капліца пачатку XX стагоддзя – гісторыка-культурная каштоўнасць Беларусі.

Таксама спансіраваў праект Народны саюз Германіі па доглядзе за ваеннымі могілкамі – гэта гуманітарная арганізацыя, якая ладзіць паездкі да месцаў ваенных пахаванняў, нацыянальныя і міжнародныя моладзевыя лагеры і сустрэчы маладых людзей, якія даглядаюць за салдацкімі пахаваннямі.



Нямецкія і беларускія навучэнцы аднаўляюць агароджу вакол могілак.



Алена Шамарына (злева) і Хольгер Хагэман.

Фота Ігара ПАЛЬНСКАГА.

**– Галоўная мэта праекта – зрабіць так, каб моладзь любой нацыянальнасці знайшла агульную мову, пасябравала. Гаворка ідзе, у першую чаргу, пра сяброўства і мір, – кажа каардынатар праекта Хольгер Хагэман.**

### Дрэвы раслі на даху капліцы

Узрост удзельнікаў праекта розны: ад 16 да 29 гадоў, усе – навучэнцы, бо ў Германіі іншая сістэма адукацыі. Чатыры вучні інтэрнацыянальнага вучылішча Беруфлехе Шуле з горада Расток у Германіі і сем навучэнцаў філіяла Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта політэхнічны каледж працавалі амаль два тыдні, па восем-дванаццаць гадзін у суткі, часам нягледзячы на дождж.

### Будзе менш канфліктаў і войн

17-гадовы навучэнец політэхнічнага каледжа БрДТУ **Андрэй Уроніч** вучыцца на механіка, сюды прыехаў як валанцёр. Кажа, тэма вайны яму не вельмі блізкая, але лічыць, што супрацоўніцтва паміж краінамі будзе карысным.

– Думаю, калі людзі будуць больш згуртаваныя, будзе менш канфліктаў і войн. Калі будзем супрацоўнічаць адзін з адным, зможам завесці нейкія сувязі, атрымаць досвед. Можна нават будзе з'ездзіць па абмене, – мяркуе хлопец. – Нам тут не вельмі цяжка, працу даюць пасільную, менавіта я ачышчаў агароджу, манумент, надмагіллі, вазіў камяні і замешваў цэмент.

Могілкі ў Дзяятніках для рэстаўрацыі абраў Народны саюз Германіі. Гэта не першы раз, калі праект праводзяць у Беларусі. Некалькі гадоў таму добраўпарадкавалі могілкі на Мядзельшчыне, таксама ў самім Мядзеле працавалі над раскопкамі траншэй перад рэканструкцыяй боя падчас Першай сусветнай вайны. Выкладчык замежных моў у БрДТУ **Алена Шамарына** кажа, што менавіта на гэтыя могілкі вяртацца больш не плануюць.

Падчас праекта рэканструявалі помнік Першай сусветнай вайны. Капліца пачатку 20 стагоддзя адносіцца да культурна-гістарычнай каштоўнасці Беларусі. Прыбралі дрэвы, якія раслі на даху, ачысцілі ад моху, зафугавалі ўчасткі паміж камянямі і адрэстаўравалі дах. Толькі на добраўпарадкаванне помніка сышло 30 мяшкоў цэменту і 100 – пяску.

Побач з могілкамі Першай сусветнай – грамадзянскія. Агароджу, якая знаходзіцца ля адных і другіх, беларускія і нямецкія валанцёры таксама рэканструявалі. Некаторыя камяні пасля ачысткі ад моху пачалі вывальвацца: іх замянілі на новыя. Не абышлі ўвагай і самі магілы.

**Асобна Хольгер адзначыў гасцінасць беларусаў.**

– Ён сам ужо не першы раз у Беларусі, кажа, у якой бы мясцовасці ні быў, куды б ні зайшоў, вось гэта наша беларуская гасцінасць, добразычлівасць, таварыскасць вельмі адчуваюцца, – перакладае Шамарына.

**Таццяна КАСЬЯН.**

*Праект фінансуецца Auswärtiges amt der BRD і Stiftung Gedenken und Frieden des Volksbundes Deutsche Kriegsgräberfürsorge.*

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/mohilki**




Фота Паўла ДРОЖЖЫ.

Падчас фрымаркету людзі маглі бясплатна ўзяць адзенне, абутак і аксесуары.

# Бясплатна раздавалі рэчы і гутарылі пра экалогію

## Як правялі фрымаркет у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**19 мая ў адукацыйным цэнтры «Адкрытая прастора», які прапанаваў памяшканне, зладзілі фрымаркет. Гэта рух, пры якім удзельнікі аддаюць дарма рэчы, якія сталі ім непатрэбныя.**

Мэта маладзечанскага фрымаркету – знізіць колькасць спажывання рэчаў, звярнуць увагу людзей на паўторнае і наступнае спажыванне. На тое, што не заўсёды трэба траціць грошы на рэчы, якія можна атрымаць бясплатна. Ідэю праекта агучылі на адным з дыскусійных клубаў, што ладзіліся ў Маладзечне. І прыкладна за месяц яе рэалізавалі. Анансавалі праз сацыяльныя сеткі, СМІ, запрашалі знаёмых.

– Заканчваецца вясна, ёсць падстава вызваліць гардэроб ад непатрэбнага адзення. Перажывалі, што прынясуць мала, але ўжо ў 10:30, калі пачаўся праект, прыйшлі некалькі чалавек, – кажа адна з арганізатараў праекта **Яна Рамановіч**. – А бралі тое, што сапраўды неабходна, прыемна, што людзі асэнсавана выбіралі рэчы. Не было, як у амерыканскіх серыялах: за хвіліну паспець набыць у краме ўсё.

На мерапрыемства прыносілі мужчынскія рэчы – штаны, сарочкі, жаночыя сукенкі і кофты, верхняе адзенне, дзіцячыя рэчы і абутак, аксесуары. Не прынялі толькі пару адзінак, калі глядзелі якасць, астатнія аказаліся ў добрым стане. Была магчымасць і прымераць адзенне.

– Рэчы былі прыгожыя, цікавыя, каб была на месцы наведнікаў, узяла б. Па праўдзе кажучы, у канцы сабе адну ўсё ж такі забрала, так мовіць, прыклала руку да праекта, – смяецца Яна.

Па заканчэнні фрымаркету рэчаў не засталося. Тыя, што не забралі наведнікі, арганізатары занеслі ў Маладзечанскі псіханеўралагічны дом-інтэрнат, дзе ў іх мелі патрэбу.

– Хацелі паглядзець, як аднясуцца гараджане да ініцыятывы. Вядома, быў недавер. Выходзілі падчас фрымаркету, запрашалі. Многія прамым тэкстам казалі, што бясплатны сыр толькі ў пастцы.

Па словах Яны, людзі старэйшага пакалення пакуль не разумеюць, для чаго ладзяцца падобныя мерапрыемствы, бо выраслі з упэўненасцю, што за ўсё трэба плаціць. Арганізатары хочуць пасяліць у горадзе еўрапейскую пазіцыю: ёсць лішняя рэч, якая трэба іншаму, – аддай, не выкідай.

– У Еўропе такое ладзяць не першы год. Нават у Мінску моладзь ведае, што такое «барахолка», ідзе на яе з задавальненнем. А вось у Маладзечне пакуль няма такой колькасці «двіжовай» моладзі.




Яна Рамановіч, адна з арганізатараў фрымаркету.

Сыходзячы з досведу праведзенага мерапрыемства, фрымаркет могуць правесці зноў. Акрамя адзення і абутку, хочуць дзяліцца кнігамі, карцінамі, статуэткамі – працаваць у розных накірунках.

### Як дапамагчы прыродзе, здароўю і бюджэту

Падчас сустрэчы майстар-клас і лекцыю па экалогіі правяла журналістка **Аляксандра Парахня**.

А вы ведалі, што папяровыя кубачкі і чэкі нельга выкідваць у макулатуру, а люстэркі і аконныя шыбы – у кантэйнеры з надпісам «Шкло»? Усё гэта трэба кідаць у агульнае смецце. Бо люстэрка – шкло з напыленнем срэбра, шыба – таксама шкло са спецыфічнымі дадаткамі. А ўнутры кубачкаў знаходзіцца тонкі слой пластыку. На майстар-класе наведнікі змаглі праверыць, ці ўмеюць яны сартаваць смецце.

На лекцыі паслухалі экалагічныя парады на кожны дзень.

– Разглядалі, якія ёсць альтэрнатывы фасфатным пральным парашкам, чым можна замяніць асвяжальнік паветра, як выбраць бяспечны для прыроды сродак для мыцця посуду, – кажа Аляксандра. – Важна паказаць людзям, што можна памяняць дробныя штодзённыя звычкі, каб быць больш экалагічным. Не трэба кардынальна змяняць жыццё ці пачынаць есці траву, каб потым «фотасінтэзаваць». Гэтыя звычкі дапамогуць не толькі экалогіі, але таксама здароўю і бюджэту сям'і.

**Таццяна КАСЬЯН.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**714,3**

**ТЫСЯЧЫ ТОН**

сабралі другасных матэрыяльных рэсурсаў для паўторнага выкарыстання і перапрацоўкі ў 2018 годзе ў Беларусі.

**Паводле target99.by.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.05 | 23.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0930 | **2.0757** |
| Еўра | 2.3459 | **2.3160** |
| Злоты, 10 | 5.4389 | **5.3812** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2297 | **3.2234** |
| Грыўня, 100 | 7.9423 | **7.8946** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 15.05 | 22.05 |
| Еўра | 2.3350/2.3610 | **2.3000/2.3220** |
| Долар ЗША | 2.0800/2.1020 | **2.0600/2.0800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 15.05 | 22.05 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,70** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,66** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,30 | **1,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,35** |
| Агуркі, 1 кг | 2,49 | **1,49** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Бульба, 1 кг | 2,20 (маладая) | **1,90** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 (маладыя) | **1,20** |
| Капуста, 1 кг | 1,89 | **1,99** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,70 | **2,70** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,95** |
| Перац, 1 кг | 8,69 | **7,90** |
| Радыс, 1 кг | 1,99 | **1,99** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,85 | **1,85** |
| Часнок, 1 кг | 6,40 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 8,50 | **6,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,70 | **2,95** |
| Клубніцы, 1 кг | 11,00 | **5,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,40 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | – | **8,50** |
| Чарэшня, 1 кг | – | **10,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Вялікі пажар здарыўся ў вёсцы Варонічы

ВІЛЕЙКА

Вялікі пажар у вёсцы Варонічы Крывасельскага сельсавета здарыўся 21 мая. У Вілейскі РАНС пра гэта паведамілі ў 10:42.

– Паведамленне пра пажар мы атрымалі з Цэнтра аператыўнага кіравання Мінскага абласнога ўпраўлення МНС, – расказаў карэспандэнту галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзяніс Гаўрышчук**.

Па яго словах, гаспадыня дома №17 па вуліцы Цэнтральнай, у двары якой пачаўся пажар, адразу патэлефанавала дачцэ ў Мінск. А тая, набраўшы 101, трапіла да сталічных выратавальнікаў.

Калі на месца пажару прыехала першае аддзяленне, яны паведамілі калегам, што па вуліцы Цэнтральнай, 17 гарыць дом і хлеў. А на Цэнтральнай, 22 – дом, хлеў і гараж пад адным дахам і яшчэ тры хлявы, што стаяць на двары асобна.

Першае аддзяленне папрасіла ў калег дапамогі. У выніку, акрамя вілейскіх спецыялістаў, да тушэння пажару далучыліся выратавальнікі з Мядзела.

Людзі не пацярпелі. У доме №17 жыла гаспадыня. Дом №22 выкарыстоўвалі як лецішча. У ім гаспадароў не было.

Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На прадпрыемстве кралі бетонныя блокі

МАЛАДЗЕЧНА

Злачынная група крала блокі на адным з прадпрыемстваў Маладзечаншчыны.

У міліцыю па дапамогу звярнулася кіраўніцтва аднаго з прадпрыемстваў Маладзечанскага раёна, якое спецыялізуецца на вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. У ходзе рэвізій у адміністрацыі з'явіліся падставы меркаваць, што працаўнікі зарабляюць ценявым спосабам вывазу прадукцыі.

Пачалі праверку. Устанавілі схему крадзяжу будаўнічых блокаў і паддонаў з выкарыстаннем падробленых дакументаў. Ёсць падставы меркаваць, што ў склад злачыннай групы ўваходзілі работнікі самога прадпрыемства і прадстаўнік іншай камерцыйнай структуры, якая аказвае паслугі па перавозцы прадукцыі.

Як было ўстаноўлена, у адзін са студзеньскіх дзён грузавік прыехаў на тэрыторыю будаўнічага прадпрыемства пад выглядам вяртання паддонаў. Такі быў усталяваны парадак, што іх неабходна вяртаць на склад пасля кожнай грузаперавозкі.

У рэалізацыі схемы задзейнічалі каля чатырох работнікаў прадпрыемства. І ў кожнага была свая роля. Прадукцыю загрузілі ў машыну і нібыта легальна вывезлі за межы ахоўнай тэрыторыі па падробленых дакументах, якія потым схавалі.

Аператыўнікі мяркуюць, што давесці справу да канца ініцыятарам дапамаглі яшчэ некалькі рабочых прадпрыемства. У цяперашні час па дадзеным факце затрыманыя чатыры чалавекі.

Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі вызначаюць ролю кожнага з іх у здзяйсненні крадзяжу. У цэлым фігуранты выкралі будаўнічых блокаў і паддонаў на суму больш за чатыры з паловай тысячы рублёў.

Распачалі крымінальную справу.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Жыхарка Мінска знікла на Валожыншчыне




ВАЛОЖЫН

Мінчанка **Наталля Мацкоўская** 1945 года нараджэння знікла ў Валожынскім раёне 18 мая.

Сюды жанчына прыехала на лецішча, што ў садовым таварыстве «Заранак».

Яна выйшла са свайго лецішча ў невядомым накірунку і знікла.

Прыкметы: рост 160 сантыметраў, худая, вочы шэра-блакітныя, прычоска карэ, цёмныя валасы.

У што была апранутая, устанаўліваюць.

**Паводле сайта пошукавага атрада «Анёл».**



Дзверы суседа маладзечанец падпаліў з дапамогай запальнічкі і газавага балончыка.

# Маладзечанец падпаліў дзверы саперніку

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра злачынны ўчынак у пад'ездзе дома па Віленскай у Маладзечне паведаміў пацярпелы.**

Мужчына распавёў, што яго знаёмы наўмысна падпаліў уваходныя дзверы кватэры. Узгаранне ўладальніку кватэры ўдалося тут жа патушыць. З дваіх уваходных дзвярэй пацярпелі драўляныя, што ўнутры жылля.

Матэрыяльную шкоду заяўнік ацаніў у дзвесце рублёў. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў высветлілі асобу падазраванага ў падпале. Ім аказаўся 41-гадовы маладзечанец, які жыве на другім паверсе гэтага дома.

Напярэдадні ён спусціўся да свайго 51-гадовага знаёмага на першы, каб пагаварыць аб жыцці – мужчынам падабаецца адна жанчына.

Размова не атрымалася. Госцю не адчынілі дзверы. Пакрыўджаны ён пайшоў, але неўзабаве вярнуўся з балончыкам і запальнічкай у руках. Мужчына вырашыў пакараць гаспадара за такі прыём.

Самаробны агнямёт з аэразольнага балончыка і запальнічкі ён паднёс да замочнай свідравіны ўваходных дзвярэй – адбылося ўзгаранне. Гаспадар кватэры сваімі сіламі патушыў агонь. Тым не менш, кватэра апынулася задымленая, пах гары адчуваўся і ў пад'ездзе.

**Паводле сайта МНС.**

## Падчас руху загарэўся аўтамабіль

ВІЛЕЙКА

Пра гэта распавялі ў Вілейскім РАНС.

Здарэнне адбылося 19 мая на аўтадарозе Маладзечна-Ілья. Пакуль прыехалі выратавальнікі, аўтамабіль Пежо-307 ужо згарэў. Ад машыны застаўся толькі металічны каркас.

Па словах спецыялістаў, пажар пачаўся пад капотам. Верагодная прычына – кароткае замыканне.

Разам з машынай згарэлі дакументы. Кіроўца, 36-гадовая жыхарка Вілейскага раёна, не пацярпела.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанец апёкся газавым балончыкам

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

18 мая ў 16:40 ратавальнікі атрымалі паведамленне аб тым, што ў бальніцу шпіталізавалі з апёкамі жыхара Маладзечна.

Хутчэй за ўсё, што каля 12 гадзін таго ж дня мужчына, знаходзячыся на сваім прысядзібным участку ў вёсцы Манічы, рабіў рамонт.

Пацярпелы вырашыў разагрэць вузел трактара з дапамогай партатыўнага газавага балончыка, з-за чаго адбылася ўспышка газапаветранай сумесі.

У выніку мужчыну шпіталізавалі ў бальніцу з папярэднім дыягназам: «тэрмічныя апёкі першай-другой ступеняў».

Ратавальнікі нагадваюць: будзьце асцярожныя з выбухованебяспечнымі рэчывамі і лёгкаўзгаральнымі вадкасцямі.

**Паводле сайта МНС.**

## У Смаргоні 15 мая гарэў аўтамабіль

СМАРГОНЬ

Паведамілі пра пажар легкавіка «Аўдзі-100» ў 19:27. Ён гарэў на тэрыторыі прыватнага домаўладання ў Смаргоні.

У выніку знішчанае абсталяванне маторнага адсека. Як мяркуецца, прычына пажару – няспраўнасць электрасеткі (кароткае замыканне электраправодкі ў маторным адсеку).

**Паводле сайта МНС.**

## Грамадзян прыме намеснік начальніка ўпраўлення СК па Мінскай вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

31 мая ад 11:00 да 13:00 у будынку Маладзечанскага РАСК па вуліцы Прытыцкага, 23 выязны прыём правядзе намеснік начальніка ўпраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Аляксандр Зямніцкі**.

З пытаннямі могуць звяртацца грамадзяне, індывідуальныя прадпрымальнікі, юрыдычныя асобы.

Папярэдні запіс на прыём 29 і 30 мая ад 10:00 да 13:00 па тэлефоне 8 (0176) 774421.

**Юры БАГУШЭВІЧ, Маладзечанскі РАСК.**

## Жыхары Вілейшчыны, што зніклі на заробках у Расіі, знайшліся

ВІЛЕЙКА

Днямі УУС Мінаблвыканкама паведамляла пра тое, што на заробках у Расіі зніклі два жыхары Вілейшчыны **Аляксандр Смаленскі** і **Віталь Русак**.

Абодва мужчыны жывуць у вёсцы Лыцавічы.

Як паведамілі ў Вілейскім РАУС, 21 мая мужчыны знайшліся. Яны самі выйшлі на сувязь са сваякамі. Чаму ад красавіка яны не паведамлялі пра сябе, не растлумачылі.

Днямі Аляксандр Смаленскі і Віталь Русак вернуцца дамоў у Лыцавічы.

**Аксана ЯРАШОНАК..**



Святлана Сянько з абласнога таварыства БелТІЗ узнагароджвае Міхаіла Невядомскага.

# На 60-годдзе БелТІЗ прыехала госця з Сібіры

**У Валожынскім раённым таварыстве БелТІЗ сёння 70 чалавек. На святочную сустрэчу з чаяваннем і падарункамі, прысвечаную 60-годдзю арганізацыі, прыйшло больш за 20.**

ВАЛОЖЫН

Большасць прысутных – мясцовыя. З далёкіх – старшыня абласнога таварыства **Святлана Сянько**.

Па яе словах, за 60 год арганізацыя шмат рабіла і робіць для сваіх сяброў. Аднак яшчэ ёсць над чым працаваць.

**Святлана звярнулася да прадстаўніка аднога з банкаў, што прысутнічаў на сустрэчы. Параіла паклапаціцца пра тое, каб іх банкамат у Валожыне быў абсталяваны для невідушчых людзей і людзей з дрэнным зрокам.**

Прадстаўнікі банка абяцалі данесці просьбу свайму кіраўніцтву.

### На юбілей БелТІЗ прыехала госця з Сібіры

Але самай далёкай госцяй была ўсё ж не Святлана. З Сібіры прыехала ўраджэнка Валожына **Ларыса Цітова**. Шмат год таму з Беларусі яна з'ехала разам з мужам вайскоўцам.

**Мама Ларысы, Вера Бацян, даўняя і актыўная ўдзельніца раённага таварыства БелТІЗ, у гэтыя дні таксама святкавала свой юбілей. Жанчыне споўнілася 80 год.**

– Мама вельмі чакала і свайго юбілею, і юбілею любімай арганізацыі. Аднак якраз у гэтыя дні прыхварэла. БелТІЗ у маміным жыцці значыць вельмі шмат. Каля 40 гадоў яна – актывістка гэтай арганізацыі. Шмат ездзіла ад таварыства па Беларусі і за межамі. Выступала са спевамі.

Па словах маёй субяседніцы з Сібіры, БелТІЗ – гэта не толькі частка жыцця мамы. Гэта і дзіцячыя ўспаміны самой Ларысы. Бо ў шматлікія паездкі мама брала дзяцей. Да сённяшняга дня Ларыса памятае алею цюльпанаў, што дзяўчынкай упершыню пабачыла ў Кіеве.

– Працую настаўніцай музыкі ў школе. Хвалявалася, што мяне не пусцяць у такую далёкую дарогу. Яшчэ ж не скончыўся навучальны год. Але кіраўніцтва адпусціла да мамы. З-за хваробы яна сама не змагла прысутнічаць на юбілейнай сустрэчы. Але я абавязкова здыму для яе відэапрывітанне, – падзялілася Ларыса.

### Праца з людзьмі з інваліднасцю – самаадукацыя для мясцовай улады

З 60-годдзем БелТІЗ віншавалі Валожынскі цэнтр сацыяльнай абароны насельніцтва, а таксама намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама **Ігар Шакун**. З таварыствам райвыканкам супрацоўнічае не першы год. Дзякуючы такому ўзаемадзеянню горад становіцца больш безбар'ерным.

Ігар Шакун падзякаваў старшыні раённага таварыства за тое, што ён звяртае ўвагу мясцовых уладаў на праблемы невідушчых людзей.

Адзначыў, што на працягу дзесяцігоддзяў таварыства ў Валожыне не проста фармальна існуе, а актыўна ўдзельнічае ў гарадскім жыцці.

– Здаровыя людзі часам не звяртаюць увагі на праблемы хворых. Калі ты здаровы і паспяховы, можа падавацца, што і ў астатніх няма праблем, – лічыць Ігар Шакун. – Калі ж пачынаеш займацца праблемамі людзей з інваліднасцю, разумееш, што гэта далёка не так. Таму такая праца – своеасаблівая самаадукацыя для нас.

Па словах намесніка старшыні, у невялічкім Валожыне – дзве тысячы людзей з інваліднасцю. Гэта нямала, пераканаіны Ігар Шакун.

Галоўнае, на яго думку, вырашаючы праблемы гэтых людзей, арыентавацца на кожнага канкрэтнага чалавека.

**У райвыканкаме ёсць камісія па стварэнні безбар'ернага асяроддзя. Станоўчыя вынікі яе працы ў тым, што Валожын прызнаны адным з самых безбар'ерных беларускіх гарадоў.**

А таксама горад далучыўся да кампаніі «Павестка 50». Дзякуючы кампаніі ў горадзе ўвасабляюць Міжнародную канвенцыю па правах людзей з інваліднасцю.

Шмат увагі і грошай валожынскія ўлады цяпер плануюць выдаткоўваць на тое, каб людзі з інваліднасцю маглі выходзіць з дома. Штогод гэта збіраюцца рабіць для чатырох-пяці чалавек на Валожыншчыне.

А за шматлікія безбар'ерныя пераўтварэнні мясцовым уладам падзякуюць не толькі людзі з інваліднасцю, але і іншыя катэгорыі валожынцаў. Напрыклад, мамы з калясказмі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## У Жодзішках зладзілі літаратурна-мастацкі пленэр

СМАРГОНЬ

**Днямі восем беларускіх мастакоў паўдзельнічалі ў пленэры ў Жодзішках.**

Гаспадар аграсядзібы **Алег Мізула** натхняў творцаў сваімі аўтарскімі песнямі. Распавядаў пра багатую гісторыю мястэчка Жодзішкі, што мела ў свой час Магдэбургскі прывілей, дзяліўся краязнаўчымі знаходкамі і арганізоўваў экскурсіі па гістарычнай Нальшчы.

Яго жонка **Аліна** шчыравала на кухні, гатуючы мясцовыя нацыянальныя стравы. Як пазней прызнаўся слынны майстар-жывапісец **Віктар Нямцоў**, у меню была выключна яго любімая ежа.

Напэўна, беларуская кухня была даспадобы ўсім, таму ў падзяку за такі прыём мастакі пакінулі гаспадару асобныя свае творы. Спачатку іх выставілі ў мясцовым старажытным касцёле, колішнім кальвінскім зборы, а пазней яны станудь экспанатамі мастацкай галерэі на мясцовай аграсядзібе.

Сярод падарункаў пейзаж «Вясна ў Жодзішках» уладальніка галерэі ў Навагрудку **Кастуся Качана**, работы графіка **Віктара Мікіты**, партрэтыста **Віктара Барабанцава**, уладальніка прэміі «За духоўнае адраджэнне» **Алеся Сушы**, жывапісныя палотны **Анатоля Бяляўскага** і рамантычныя акварэлі **Галіны Бяганскай**.

Трыпціх «Нальшчанская пастараль» мастачкі ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва **Таццяны Ласкі** – узор абстракцыянізму, што перадаў эмоцыі аўтаркі, шукальніцы скарбаў даўніны.

Таццяна стварыла яшчэ і адметныя інсталяцыі на вокнах банкетнай залы сядзібы, даўшы новае жыццё дробным рарытэтам: замочкам, клямкам, званам, кручочкам, ключам, шаргунам.

Спачатку гаспадар сядзібы не разумеў, што шукае гэта апантаная творчая асоба на яго падворку. А калі ўбачыў першыя мадэрновыя фіранкі, то сам пачаў прыносіць жмені матэрыялу для дэкору.

**Большасць удзельнікаў пленэру не ведалі, што маляваць давядзецца на тэрыторыі такой багатай паданнямі, легендамі, гісторыка-культурнымі помнікамі, творамі папярэднікаў.**

Касцельныя фрэскі **Пётры Сергіевіча**, на якіх захаваліся твары местачкоўцаў у вобразах евангельскіх персанажаў, сталі прадметам абмеркавання з ксяндзом **Паўлам Калеснікам**, дужа заклапочаным цяперашнім станам фрэсак. А яшчэ гэтыя фрэскі звярнулі ўвагу на тыпаж сённяшніх мясцовых жыхароў, асобным з якіх пашчасціла пазіраваць партрэтыстам.

Натхнялі ўдзельнікаў пленэру і яго арганізатары: спонсар прадпрымальнік **Францішак Жылка**, прадстаўнікі мясцовага фонду «Спадчына Агінскага», майстры слова **Алесь Камоцкі**, **Людміла Хейдарава**, **Антаніна Хатэнка**, **Марыя Шэбанец**.

Мастакі паехалі з новымі ідэямі, эскізамі, малюнкамі, а некаторыя і з вялікім жаданнем наведаць гэтыя мясціны яшчэ раз.

**Ала КЛЕМЯНОК.**
**Фота аўтара.**



Маладзечанская мастачка Галіна Бяганская.




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**Яўгенії Іванаўне ЧАНТАРЫЦКАЙ з Маладзечна**



Паважаная Яўгенія Іванаўна, віншую Вас з юбілейнай датай нараджэння. Жадаю Вам, каб трымаліся ў моцным здароўі і нам на радасць!

**Аляксандр Салагуб з Маладзечна.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Мазда-626, 1996 г.в., выдатны стан, цана дагаворная. Т. (8-044) 4586868, (8-044) 4586869.

• Гума летняя на дысках, новая, 4 шт. PROXES CF 2 205/55 R16/ Т. (8-029) 6359630.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку, якая патрабуе тэрміновага продажу. Т. (8-044) 4506876.*

• Любое аўто на ходу для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000). Тэл. (8-033)3668181.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо памяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 36; 1/5 к, 2002 г.п., 49,2/27/8,9 кв. м, дзве зашклёныя лоджыі, уцепленая падлога, нацяжная столь, еўрарамонт, кухня па спецзаказе, выдатны стан. Т. (8-029) 3176269.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Чкалава, 8. Цана 70 000 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.*

• 3-пакаёвая кватэра на 5 паверсе. Выдатны рамонт. Т. (8-029) 5729941.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16-3 альбо абмяняю на 2-пакаёвую з вашай даплатай. Т. (8-029) 8787785.*

• Гараж у ГБК 1. Яма, склеп, абшыты вагонкай. Т. (8-029) 5729941.*

• Гараж у ГБК «Зеніт», 2002 г., з дакументамі. Т. (8-029) 7613151.

• Дача ў в. Алянец, 22 км ад Маладзечна. Участак 5,6 соткі. Дом 30 кв. м. Цана 16 000 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.*

• Дом драўляны ў в. Замошша, дом 8, Вілейскага раёна, 6х12, 72 кв. м, участак 20 сотак, святло, калодзеж, дзве печы. Т. (8-029) 2709140.*

• Дом жылы цагляны, 7 км ад Маладзечна, 56/52,5/7,6, 3 пакоі, водаправод, санвузел, шклопакеты, участак 25 сотак (агароджаны). Т. (8-033) 6621382.*

• Дом у в. Жары Вілейскага раёна. Т. (8-029) 7082011.

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна, Іжанскі с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513656.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна. Т. (8-033) 6181069.*

• Дом у в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

• Дом у Вілейцы, вул. Шубіна, 57. Т. (8-029) 7082011.

• Дом, 15 сотак, у в. Снежкава Вілейскага раёна, ёсць лазня, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 6955302.*

• Кватэра ў цэнтры Маладзечна, вул. Валынца, 1 паверх, 45 кв. м. Т. (8-029) 7800465.

• Участак прыватызаваны ў Маладзечне (СТ «Гранат»), 10 сотак, святло, 8 км ад горада, 100 м ад возера. Т. (8-029) 7736525.

### КУПЛЮ

• Дом або кватэру ў Мінскай вобласці. Тэл. (8-029) 1514441.*

### ЗДАМ

• Пакой у кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*

### НАЙМУ

• Дом невялікі або частку дома з каналізацыяй, раён чыгуначнай станцыі Маладзечна. Доўгатэрмінова, ад чэрвеня. Тэлефон і вайбер: (8-029) 8781760, Аляксандра.

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*



• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніцтораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Усё для даху і агароджы. Металапракат. Металачарапіца. Прафнасціл. Металаштыкетнік. Труба профільная і г. д. Дахавыя (кровельные) работы. Замер. Дастаўка. ІП Смолка М. В. УНП 691185021. Т. (8-029) 1247481.*

## ПРАДАЕЦЦА

### Будматэрыялы, сантэхніка

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Міні-трактар «Зубр» 240Д, 2014 г.в. Падрабязнасці па тэлефоне. Т. МТС (8-029) 5117644, Вэлком (8-029) 9689639, дамашні (8-0176) 525156.*

• Трактар Т-16 у рабочым стане. Т. МТС (8-029) 2517438.

### Бытавая тэхніка

• Халадзільнік. Т. (8-029) 3395974.*

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

### Жывёла, птушка, пчолы

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, кураняты-нясушкі, цасаркі. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, Вэлком (8-029) 6938397.*

• Карова дойная, цялушка 14 мес., бычкі. Т. (8-025) 7894666.

• Парасяты 7 тыдняў, дойныя козы, казляняты. Т. (8-029) 6027575.*

• Шчаняты рускага ганчака ад дыпламаваных бацькоў, 17.04.2019 г. н. Вілейскіх ліній. Т. (8-01771) 28943, (8-029) 3447837.

### Іншае

• Бульба ранняя, насенная і чырвоная вялікая. Т. (8-033) 6604937.

## КУПЛЮ

### Бытавую тэхніку

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

### Жывёла, птушка, пчолы

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2572438.*

### Іншае

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Прадавец у магазін. Т. (8-029) 5694135.










# Прэзентавалі найвялікшую беларускую інтэрнэт-бібліятэку

**Сустрэча са стваральнікам бібліятэкі «Kamunikat.org» Яраславам Іванюком і бардам Віктарам Шалкевічам адбылася 16 мая ў маладзечанскім музычным каледжы.**

МАЛАДЗЕЧНА

Гісторыя бібліятэкі бярэ пачатак ад 2000 года. Яраслаў Іванюк з Беласточчыны падумаў, што шмат якую інфармацыю пра Беларусь склада́на знайсці. І было б выдатна збіраць яе ў адным месцы ў інтэрнэт-прасторы.

Гэты праект спачатку існаваў выключна на добраахвотных пачатках. І за першыя сем год яго працы назбіралася 800 публікацый. Пасля справу падтрымала МЗС Польшчы, што дало магчымасць працаваць большымі аб'ёмамі.

**І за наступныя 12 год інтэрнэт-бібліятэка папоўнілася да 40 тысяч публікацый. Сярод іх каля 8000 кніг.**

Сярод аб'ектаў бібліятэкі – кнігі, перыёдыка, аўдыё, відэа. Прынцып адбору адзіны – твор павінны тычыцца Беларусі.

Для «Kamunikat.org» важна трымацца яшчэ аднаго прынцыпу – ва ўсіх выпадках, калі магчыма атрымаць дазвол на размяшчэнне твору ад аўтара або яго спадкаемца, стваральнікі абавязкова просяць іх падпісаць ліцэнзійнае пагадненне. На постсавецкай прасторы многія аўтары пакутуюць з-за таго, што тут многія грэбуюць аўтарскімі правамі і крадуць інтэлектуальную ўласнасць, выкладаючы творы ў агульны доступ. «Kamunikat.org» гарантуе, што сярод іх збораў скрадзенай інфармацыі не будзе, на выкарыстанне ўсяго ёсць дазвол.

### Як гэта працуе

Карыстацца інтэрнэт-бібліятэкай можа кожны, усё бясплатна.

Яна мае зручны падзел на раздзелы – радыёперадачы, музыка, кніга, і іншыя. Вы можаце як выбіраць па раздзелах, так і скарыстацца пошукам. На прэзентацыі прапанавалі адшукаць, што ёсць у бібліятэцы пра Андрэя Хадановіча. Адшукалі яго персанальную старонку з фотаздымкам, сціслай біяграфіяй і спісам твораў, якія размешчаныя ў бібліятэцы.

Большасць тэкставых публікацый выкладзеныя ў фармаце pdf, а некаторыя – у фарматах для сучасных электронных чыталак. У такім выглядзе будзе асабліва зручна чытаць кнігі.

Стваральнікі карысталіся выдавецкімі pdf, калі гэта было магчыма. Публікацыі ж, што выйшлі ў далёкбавы час, даводзілася алічбоўваць самім. Арганізатары праекта лічаць важным алічбоўваць і перыёдыку. 24-гадовая гісторыя «Рэгіянальнай газеты» ў працэсе паступовага папаўнення бібліятэкі. Ужо любы можа пабачыць і прачытаць першыя нумары выдання за 1995 год.

Маладзечанцы могуць таксама паслухаць у бібліятэцы музыку барда **Таццяны Беланогай**. Навіны выдавецкай справы і аб культурніцкіх падзеях можна пачытаць у раздзеле «Што новага».

У базе ёсць таксама апісанні кніг, якія існуюць толькі на паперы з пералікам бібліятэк, дзе іх можна знайсці. Гэтая інфармацыя, канешне, не будзе патрэбная масаваму карыстальніку. Але для навукоўцаў і даследчыкаў яна бывае надзвычай важнай.




Яраслаў Іванюк з Беластока стварыў беларускую інтэрнэт-бібліятэку.



Віктар Шалкевіч.



Наведнікі сустрэчы.

Яраслаў Іванюк падзяліўся асабістым стаўленнем да праекта найбуйнейшай беларускай інтэрнэт-бібліятэкі:

– Для мяне «Kamunikat.org» – гэта маё дзіця. Тым больш, што рабіць гэты сайт мяне вучыла жонка, калі была цяжарная нашым сынам. І вось праекту ўжо амаль 20 год.

Некаторыя аўтары, на жаль, адмаўляюцца ад размяшчэння іх твораў, якія ўжо нават не прыносяць камерцыйную выгаду. Прычыны ва ўсіх розныя. Тым не менш, інтэрнэт-бібліятэка «Kamunikat.org» працягвае назапашваць усё больш інфармацыі, якая будзе важнай для наступных пакаленняў. Бо пра тое, што мы не захаваем, яны проста не змогуць даведацца.

Пасля прэзентацыі для слухачоў выступіў бард Віктар Шалкевіч. Урыўкі з яго выступлення глядзіце ў нашым відэасюжэце, які мы падрыхтуем неўзабаве.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** АдсканУйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/kamunikat**



# Адрамантуюць газавае абсталяванне, пабудуюць газаправоды

## Што зробіць «Маладзечнагаз» для жыхароў Маладзечна, Мядзела, Вілейкі, Лагойска




**Сёлета супрацоўнікі філіяла вытворчага ўчастка «Маладзечнагаз» плануюць замяніць у Маладзечне газарэгулятарныя пункты №№20, 21, 16, 17, 18, бо яны ўжо састарэлі маральна і фізічна.**

Таксама ў Маладзечне пабудуюць закальцоўку газаправодаў нізкага ціску ад завулка Асіпенкі да вуліцы Велікасельскай па завулку Велікасельскаму.

У Вілейцы і ў Мядзеле плануюць адрамантаваць анодныя зазямленні катодных станцый №№22, 3, 100, 99.

У Лагойску газарэгулятарную ўстаноўку №3 на вуліцы Гайненская шаша заменяць на размеркавальны пункт у выглядзе шафы. Такая замена чакае ўстаноўку на вуліцы Мінскай.

Запланавалі работы па замене абсталявання, якому больш за 20 год. Гэта датычыцца прамежкавага газарэгулятарнага пункта №1 у Лагойску. Тут жа зробяць капітальны рамонт будынка, пабудуюць закальцоўку газаправодаў сярэдняга ціску з устаноўкай шафнага размеркавальнага пункта ў Плешчаніцах.

А ў вёсках Беларучы на вуліцы Цэнтральнай і Кастрычнік на вуліцы Палявой плануюць праклaсці стальны газаправод.

На Лагойшчыне «Маладзечнагаз» па чарзе працуе са спажывецкімі кааператывамі. У 2019-2020 гадах плануюць газіфікаваць вёску Гайна (спажывецкі кааператыў «Гінева»), вёску Чудзенічы (спажывецкі кааператыў «Чудзенічы-газ»).

Сёлета пачнуць будаваць газаправоды спажывецкіх ўчасткаў «Беларучыгазбуд» у вёсцы Беларучы і «Ля дача Сілічы» ў Сілічах.

Запланаваныя работы па будаўніцтве аб'ектаў інфраструктуры і сетак да шматкватэрнага дома па вуліцы Перамогі ў Лагойску.

На Мядзельшчыне ўжо праектуюць сістэмы газазабеспячэння ў вёсках Антонінсберг і Сімоны. У 2019–2020 гадах іх пабудуюць.

Распрацоўваюць праектныя дакументы па газіфікацыі Крывічоў на Мядзельшчыне, Людвінова і Даўгінава на Вілейшчыне.

Асноўная задача філіяла вытворчага ўчастка «Маладзечнагаз» — забеспячэнне бесперабойнага і бяспечнага газазабеспячэння і стварэнне камфортных умоў для жыцця людзей. А для гэтага трэба пастаянна падтрымліваць усю сістэму ў тэхнічна спраўным стане, праводзіць дыягностыку газавых сетак і абсталявання, прафілактычны рамонт і абслугоўванне.

УНП 100008077

## Беларусь 1

**6.15** «Існасць».

**6.45, 21.45** Х/ф **«Я РЯДОМ».**

**8.15** «Кулинарная дипломатия».

**8.50** Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі (з сурдаперакладам).

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Маршрут построен».

**9.45** «Здоровье».

**10.40** «Дача» [СТ].

**11.20, 12.10** Х/ф **«СОЛОМОНОВО РЕШЕНИЕ».**

**15.15** «Краіна».

**15.45** Х/ф **«ВСЁ ВЕРНЕТСЯ».**

**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.

**21.00** «Панорама».

**1.00** Т/с **«СВАТЫ 5».**

**1.55** «День спорта».

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**

**8.30, 21.55** «Телебарометр».

**8.35** Х/ф **«КАК ПРИРУЧИТЬ ДРАКОНА».**

**10.05** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**11.00** «Кто я?».

**11.20** «Копейка в копейку».

**11.55** «Камень, ножницы, бумага».

**12.35** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

**13.30** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**14.30** «Когда мы дома». Скетчком.

**15.00** Фильм-фэнтези «Белоснежка: Месть гномов».

**16.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.45** «До свидания». Реалити-шоу.

**18.30** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**

**20.20** Х/ф **«2:22».**

**22.00** КЕНО.

**22.05** Х/ф **«ИНДИАНА ДЖОНС И КОРОЛЕВСТВО ХРУСТАЛЬНОГО ЧЕРЕПА».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 15.50, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 16.10, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** Мультфільмы.

**8.40** «Снежная каралева». Мастацкі фільм.

**10.00** «Жывая культура». Тэхналогія вырабу шчэпавай птушкі-абярэга (Бярозаўскі раён, Брэсцкая вобласць).

**10.20** «Беларуская кухня». Фаршыраваны шчупак.

**10.55** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу.

**11.50** «Тры талеры». Мастацкі фільм [СТ].

**15.25** «Навукаманія».

**16.15** «Тум-пабі-дум». Мастацкі фільм [СТ].

**17.55** «Дзесяць фатаграфій». Міхаіл Баярскі.

**18.30** «Мама». Мастацкі фільм.

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — гісторык, краязнаўца, лаўрэат прэміі Прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне» Вітольд Ермалёнак.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Вусаты нянь». Мастацкі фільм.

**22.15** Юбілейны канцэрт Беларускага народнага аркестра Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Сяргея Жураўля.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Играй, гармонь любимая!».

**8.00** «Александр Михайлов. Только главные роли».

**9.10** ОНТ представляет: «Хит на завтрак».

**9.50** «Теория заговора».

**10.45** «Идеальный ремонт».

**11.55** «Вокруг смеха».

**12.30** Т/с **«ДЕРЕВЕНЩИНА».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**18.00** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** «Сегодня вечером». Продолжение.

**22.15** Х/ф **«БЕЗ МЕНЯ».**

**0.05** К 85-летию космонавта. Премьера. «Космическая одиссея Алексея Леонова».

## СТВ

**6.10** «Пища богов».

**7.50** «Анфас».

**8.10** «Самая полезная программа».

**9.00** Документальный проект.

**10.00** «Минск и минчане».

**10.35** «Центральный регион».

**11.05, 23.20** Документальный спецпроект.

**12.55, 13.40** Х/ф **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. КУРЬЕРЫ СТРАХА».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**15.10, 16.50** Х/ф **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. АФГАНСКИЙ КАПКАН».**

**17.35** Х/ф **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. СМЕРТЕЛЬНЫЙ УЛОВ».**

**19.55** «СТВ-спорт».

**20.05** Х/ф **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. ЛОЖНАЯ ЦЕЛЬ».**

**22.00** СТВ представляет: республиканский праздник «ПОСЛЕДНИЙ ЗВОНОК».

## Мир

**6.00** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.30** «Союзники».

**7.05** «Такие разные».

**7.35** «Секретные материалы».

**8.00** «Любовь без границ».

**9.00** «Ой, мамочки!».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС, ДО СВИДАНИЯ».**

**13.50, 16.15, 19.15** Т/с **«ЧУЖАЯ ДОЧЬ».**

**23.25** Х/ф **«МЕСТЬ И ЗАКОН».**

**2.55** Х/ф **«АКСЕЛЕРАТКА».**

**4.25** Х/ф **«МУЗЫКАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ».**

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».

**6.20** «Terra incognita. Беларусь неизвестная».

**6.50** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.20** «Подозреваются все».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by».

**8.50** «Врачебные тайны плюс».

**9.25** «Города Беларуси».

**10.25** «Главная дорога».

**11.05** «Еда живая и мёртвая».

**12.00** «Квартирный вопрос».

**13.05** «Поедем, поедим!».

**14.00** Х/ф **«СУДЬЯ-2».**

**16.25** «Следствие вели…».

**17.15** «Секрет на миллион». Денис Майданов.

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.35** «Ты супер!». Суперсезон. Финал.

**22.50** Х/ф **«ВОРЫ В ЗАКОНЕ».**

**0.25** Х/ф **«МИРОВАЯ ЗАКУЛИСА. ПРЕДСКАЗАТЕЛИ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».

**10.00** «Сто к одному».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** «Пятеро на одного».

**12.20** ПРЕМЬЕРА. «По секрету всему свету».

**12.45** Х/ф **«ПРОЩАНИЕ СЛАВЯНКИ».**

**14.30** Д/ф «ФЕСТИВАЛЬ «АЛИНА».

**15.55** Х/ф **«СЧАСТЛИВАЯ ЖИЗНЬ КСЕНИИ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.55** Х/ф **«КРЕСТНАЯ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 15.55** Монстры на каникулах. **8.15** Интуиция. **10.15** Последняя любовь на Земле. **12.10** Я не знаю, как она делает это. **14.00** Имущество с хвостом. **17.45** Чего хотят женщины. **20.10** Дети шпионов. **21.55** Гостья. **0.20** Другие. **2.25** Последний портрет. **4.10** Побочный эффект.

### TV1000 ACTION

**7.35** Посылка. **10.15** Поле битвы. **12.30** Рэмбо III. **14.30** Пипец. **16.50** Скайлайн 2. **18.55** Рекрут. **21.10** Его собачье дело. **23.00** Спасительный рассвет. **1.25** 22 пули: Бессмертный. **3.25** Заложница 2. **5.10** Пипец 2.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Каникулы президента. **8.15** Временные трудности. **9.55** Любовь с ограничениями. **11.50, 13.10** Рок-н-ролл для принцесс. **14.45** Карлик Нос. **16.20** Разговор. **17.50** Орда. **20.20** Восьмёрка. **22.00** Ирония судьбы. Продолжение. **0.15** Духless. **2.20** Приходи на меня посмотреть. **4.20** Княжна Мери.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 11.00, 12.00** Т/с **«ГРИММ». 12.45** Х/ф **«БЕТХОВЕН». 14.30, 4.00** Х/ф **«БЕТХОВЕН 2». 16.30** Х/ф **«ФОРСАЖ 7». 19.00** Х/ф **«ПРЕВОСХОДСТВО БОРНА». 21.00** Х/ф **«УЛЬТИМАТУМ БОРНА». 23.15** Х/ф **«КОНТРАБАНДА». 1.30** Х/ф **«ОБРАТНАЯ ТЯГА». 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«ВОЛЬФ МЕССИНГ: ВИДЕВШИЙ СКВОЗЬ ВРЕМЯ». 14.00, 15.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 20.00, 21.00** Т/с **«БЛИЗНЕЦЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 4.00, 5.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 6.00, 7.00** Т/с **«НАВИГАТОР».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** Х/ф **«ЗАХОЧУ И СОСКОЧУ». 2.35** Х/ф **«ЗАХОЧУ И СОСКОЧУ. СУПЕРГЕРОИ». 4.20** Х/ф **«ЗАХОЧУ И СОСКОЧУ. МАСТЕР-КЛАСС». 6.35** Х/ф **«ГРОМОБОЙ». 8.15** Х/ф **«ЛУЧШИЙ И САМЫЙ ЯРКИЙ». 10.00** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ». 12.05** Х/ф **«ВСЕ О МУЖЧИНАХ». 13.35** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ». 15.15** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ». 17.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НЕ ПО РАЗМЕРУ». 19.20** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 21.30** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ». 23.20** Х/ф **«ОЙ, МАМОЧКИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.30, 1.55, 3.05, 4.00, 5.00** Оттепель. **6.05, 7.10, 8.05, 9.05** Опасное заблуждение. **10.00, 10.55, 11.50, 12.40, 13.35, 14.30, 15.25, 16.20, 17.15, 18.10, 19.05, 20.00, 20.55, 21.50, 22.40, 23.35** Принцип Хабарова.

### ВТВ

**6.05, 3.50** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **6.35, 5.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.25** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.20, 3.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.15** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.45** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Мультфильмы «МАШИНЫ СКАЗКИ». **10.40** Т/с **«ЕРАЛАШ». 11.15** Х/ф **«БАЛЕРИНА». 13.00** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **14.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **15.00** Т/с **«#СЕНЯФЕДЯ». 16.25, 18.40, 23.25** Прогноз погоды на неделю. **16.30** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 18.45** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 2». 23.30** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ» с Михаилом Шацем. **0.30** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **1.25** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым.

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Легенды мирового спорта. **7.30** Фактор силы. **8.00** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. Ислочь (Минский р-н) — Торпедо-БелАЗ (Жодино). **10.00** Гандбол. Квалификация к ЧМ-2019. Женщины. Плей-офф. Беларусь — Норвегия. **11.35** Спорт-микс. **11.45** Большой спорт. **12.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Дуйсбург. **14.20** Теннис. Ролан Гаррос. **16.10** Наша Олимпиада. **16.40** Спорт-центр. **16.50** Волейбол. Золотая Евролига. Женщины. Беларусь — Испания. **18.50** Тренировочный день. **19.20** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Беларусь — Украина. **21.20** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Финал. Превью. **21.50** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Финал. Тоттенхэм (Англия) — Ливерпуль (Англия).

### EUROSPORT

**1.00, 4.00, 6.00, 8.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Шестой день. **2.00, 7.00, 11.25, 22.15** «Гейм, Шетт и Матс». **2.30, 5.00, 7.30, 9.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 19-й этап. **10.30, 22.45** Теннис. «Ролан Гаррос». Матч дня. **11.55, 18.15, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Седьмой день. **14.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 20-й этап. **18.10** Велоспорт. «Джиро»-экстра. **23.45** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Обзор дня.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.00** Трасса А2. **6.45, 9.20, 12.25, 15.05, 18.05, 22.35, 0.25, 3.10** Итоговые новости. **7.50** Автодрайв. **8.15, 10.40** Тест на «Драйве». **8.50** Резьба по стали. **9.35** Мир танков. **10.10** Кастомайзинг по-русски. **11.10, 19.50, 23.10, 3.20** Металломщики. **12.00, 20.35, 23.55, 4.05** Автодело. **12.40, 21.05, 0.35, 4.35** Поездка выходного дня. **13.10** В поисках мотоприключений. **14.10, 15.15, 18.20** Двухколесный тюнинг. **21.35, 5.00** Автомобильные музеи мира. **22.05, 5.30** Гараж для двоих. **22.55** Дома на колесах. **1.05** Байки про байки. **2.55** Хорошо забытое.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.25** Пятая передача. **9.10, 10.00, 10.50, 11.35** Австралийские золотоискатели. **12.25, 13.15** Австралийские охотники на лобстеров. **14.05, 14.55, 15.40** Поисковая команда в Австралии. **16.30, 17.20** Короли разрушения. **18.15, 18.40, 19.05** Грузовые войны: Великобритания. **19.30, 20.20** Большое рыболовное состязание. **21.20** Надсмотрщик. **22.05** Тренировка по древним традициям. **23.00, 23.55** Рэй Донован. **0.55, 1.40** Уникальные дома из дерева. **2.25** Речные чудовища. **3.20, 4.10** Выживание в лесу. **5.05, 5.30** Невероятные изобретения.

### HISTORY

**7.10** Невероятные изобретения. **7.40, 5.00, 5.50** Запретная история. **8.30** Шрамы Нанкина. **9.30, 10.30, 2.05** Тайная война. **11.35** Генрих и Анна: любовники, изменившие историю. **12.35** Скрытые следы: Гора Гитлера. **13.40** Скрытые следы: Война во Вьетнаме. **14.45** Скрытые следы: Ватерлоо. **15.55** Первые люди. **17.00** Падение империи. **18.00, 19.00** Взрывная Земля. **20.05** Вторая мировая в цвете. **21.10** Восемь дней, которые создали Рим. **22.00** В поисках «Восточного экспресса». **22.55, 23.35** Поворотный момент. **0.10** История оружия. **1.10** Боевые корабли. **3.10** Заговор. **4.05** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20, 7.50, 8.15, 8.45** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **9.15, 10.10, 11.05, 12.00** Речные чудовища. **12.55, 13.50, 14.45** Могучие реки. **15.40, 16.30, 17.20** Вулканы: разрушение и сотворение. **18.10, 19.05** Мощь вулканов. **20.00, 2.35, 3.25** Хищные питомцы. **20.50, 21.40** Свирепые животные. **22.30** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **23.20, 0.05** Война за животных. **0.50, 1.40** Жуткие, настоящие и странные. **4.15, 5.10** Суперветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Увлекательная наука. **6.20, 5.10, 5.35** Научные глупости. **6.45, 7.30** Панорама 360. **8.20, 12.00, 3.30** Авто-SOS. **9.05, 9.50** Служба спасения Аляски. **10.35, 11.15** Золото Юкона. **12.45, 13.30** Дикий тунец: Север против Юга. **14.15, 15.00** Расследование авиакатастроф. **15.50, 16.35** Настольная книга диктатора. **17.25** Осушить океан: злодеи преступного мира. **18.10** Осушить океан: Бермудский треугольник. **19.00, 22.10** Король, обманувший Гитлера. **19.45** В поисках наследия. **20.30, 20.55** Тайные истории. **21.20** Реальность или фантастика? Сезон 3. **22.55** Суперсооружения Третьего рейха: Война с Америкой. **23.40** Кокаиновые войны: конец картеля. **0.25** 2000-е: Величайшие трагедии. **1.10** Американская мафия изнутри. **2.00, 2.45** Граница. **4.20** Инженерные идеи.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.15** Какая дичь! **6.15, 22.30** Камера, мотор… рыба! **6.40, 23.30** Рецепты старого Тифлиса. **6.55, 11.50, 23.45** Рыболовные путешествия. **7.50, 19.20** Рыбалка-шоу ТВ. **8.20** На рыбалку с охотой. **8.50, 15.15, 3.10** Охота в Карачаево-Черкесии. **9.20, 15.45, 20.45, 3.35** Спиннинг на камских просторах. **9.50, 21.20** Рыбалка сегодня. **10.05, 21.30** Профессиональная рыболовная лига 2018. **10.35** Истории охоты от Павла Гусева. **10.50, 17.15, 1.00, 5.05** Трофеи. **11.20, 18.50, 1.30, 5.30** Водный мир. **12.45** Рождение клинка. **13.15** Спиннинг сегодня. **13.45** Рыбалка в России. **14.15, 2.15** Поплавочный практикум. **14.45, 2.45** По рекам России. **16.15, 4.05** Карпфишинг. **16.45, 4.35** Уральская рыбалка. **17.45** Смертельный улов. **18.30** Две на одного. Оружие. **19.50** Поймай и сними. **20.20** Рыбалка сегодня XL. **22.00** Кодекс охотника. **23.00** Беларусь: в поисках хорошего клева. **0.45** Советы бывалых. **2.00** Дело вкуса.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.50, 17.50, 21.35, 2.25** Дома на деревьях. **6.50, 10.30, 14.35, 18.35, 22.20, 3.05** Готовим на Майорке. **7.05, 10.50, 14.50, 18.50, 22.35, 3.20** Городские дачники. **7.35, 11.20, 15.20, 19.20, 23.05, 3.45** У мангала. **8.05, 11.45, 15.50, 19.45, 23.35, 4.15** Домик в Америке. **8.35, 12.15, 16.20, 20.15, 0.05, 4.40** Домоводство. **8.50, 12.35, 16.35, 0.20, 4.55** Ботаника с Павлом Стерховым. **9.20, 13.00, 17.05, 21.05, 0.50, 5.35** Лавки чудес. **13.30, 17.35, 2.10** Свечной заводик. **20.35** Дачная энциклопедия. **1.15** Осторожно злая собака. **1.45** Зеленая аптека. **5.20** Травовед.

## Беларусь 1

**6.25, 9.45** Т/с **«СВАТЫ 5».**

**7.20** Х/ф **«Я РЯДОМ».**

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**10.50** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.35** «Игры.by».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** «Маршрут построен».

**13.15** Х/ф **«МОЙ ЛЮБИМЫЙ ПРИЗРАК».**

**15.15** «Твой город».

**15.30** «Вокруг планеты».

**16.20 Т/ф «ВСЕ ПУТЕМ».**

**16.40** Х/ф **«ДВЕ ЖЕНЫ».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** «Главный эфир».

**22.10** Х/ф **«ВСЁ ВЕРНЕТСЯ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**

**8.35, 19.55** «Телебарометр».

**8.40** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.30** «Мир наизнанку. Япония». Трэвел-шоу.

**10.25** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.25** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**

**13.15** Х/ф **«ИНДИАНА ДЖОНС И КОРОЛЕВСТВО ХРУСТАЛЬНОГО ЧЕРЕПА».**

**15.20, 23.35** «Орел и Решка. Рай и ад». Трэвел-шоу.

**16.20** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.50** «Битва экстрасенсов. 17-й сезон». Реалити-шоу.

**20.25** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** КЕНО.

**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

**23.00** «Сыграй меня, если сможешь».

## Беларусь 3

**7.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.

**8.00, 13.40, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** Мультфільм.

**8.35** «Вусаты нянь». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.20** «Беларуская кухня». Каша-прысыпанка.

**10.45** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.35** «Мама». Мастацкі фільм.

**13.00** «Дзесяць фатаграфій». Міхаіл Баярскі.

**14.00** «Майстры і куміры». Народны артыст Беларусі Генадзь Аўсяннікаў.

**14.50** «Тры талеры». Мастацкі фільм [СТ].

**18.25** «Тум-пабі-дум». Мастацкі фільм [СТ].

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Чужая радня». Мастацкі фільм.

**22.40** Выніковы канцэрт навучэнцаў Беларускай дзяржаўнай харэаграфічнай гімназіі-каледжа.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** Мультфильмы «Маша и Медведь».

**7.40** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** «Здоровье».

**10.35** «Непутёвые заметки».

**10.55** Премьера. «Александр Балуев. «У меня нет слабостей».

**12.00** Х/ф **«БЛАГОСЛОВИТЕ ЖЕНЩИНУ».**

**14.25** «Ералаш».

**14.45** Премьера. «Ледниковый период. «Дети». Новый сезон.

**16.20** «Ледниковый период. «Дети». Новый сезон. Продолжение.

**17.20** ОНТ представляет: «Спорт-фактор»(12+).

**18.25** «Лучше всех!».

**20.00** «Контуры».

**21.05** Х/ф **«ОТСТУПНИКИ».**

**23.40** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**0.00** «Видели видео?».

## СТВ

**6.05** «Пища богов».

**7.40, 20.35, 23.30** Документальный спецпроект.

**9.15** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Водить по-русски».

**11.20, 13.40, 16.40** Т/с **«ГОРОД».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**23.00** «Неделя спорта».

## Мир

**6.00, 6.30, 7.15** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.45** «Беларусь сегодня».

**7.45** «Культ/туризм».

**8.15** «Еще дешевле».

**8.50** «Всемирные игры разума».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «Мировые леди».

**10.45, 16.15, 19.30** Т/с **«ПОХИЩЕНИЕ БОГИНИ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**20.20, 1.00** Т/с **«ЧУЖАЯ ДОЧЬ».**

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».

**6.20** «Terra incognita. Беларусь неизвестная».

**6.50, 22.20** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.20** «Подозреваются все».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «Специальный репортаж».

**8.40** «Однажды...».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.05** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Х/ф **«СУДЬЯ-2».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.15** «Ты не поверишь!».

**22.50** Х/ф **«ХОЗЯИН».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«МЕЛОДИЯ НА ДВА ГОЛОСА».**

**9.30** Х/ф **«ТРИЖДЫ О ЛЮБВИ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**13.55** «Смеяться разрешается».

**15.15** «Далекие близкие» с Борисом Корчевниковым.

**16.45** «Выход в люди».

**17.50, 21.45** Х/ф **«БЛАГИМИ НАМЕРЕНИЯМИ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.35** Эволюция Борна. **9.05** Гостья. **11.40** Другие. **13.45** Дети шпионов. **15.30** Побочный эффект. **20.10** Что скрывает ложь. **22.00** Малышка на миллион. **0.30** Перемотка. **2.30** Уна. **4.15** Мой мальчик.

### TV1000 ACTION

**7.25** Рекрут. **9.50** Спасительный рассвет. **12.15** 22 пули: Бессмертный. **14.30** Пипец 2. **16.45** Заложница 2. **18.45** Телохранитель киллера. **21.10** Окулус. **23.10** Мишель Вальян: Жажда скорости. **1.15** Человек-мотылёк. **3.20** Ворон. **5.10** Громобой.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Восьмёрка. **8.05** Ирония судьбы. Продолжение. **10.20** Урфин Джюс и его деревянные солдаты. **12.10** Подземелье ведьм. **13.55** Княжна Мери. **16.10** Без границ. **18.10** Приходи на меня посмотреть. **20.20** 8 первых свиданий. **22.00** Духless 2. **0.10** Райские кущи. **2.20** Русалка. **4.25** Олимпиус Инферно.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 10.45, 11.30** Т/с **«ГРИММ». 12.30** Х/ф **«ИДЕНТИФИКАЦИЯ БОРНА». 14.45** Х/ф **«ПРЕВОСХОДСТВО БОРНА». 16.45** Х/ф **«УЛЬТИМАТУМ БОРНА». 19.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ БОРНА». 21.45** Х/ф **«ДЖЕЙСОН БОРН». 0.00** Х/ф **«ПРИКОНЧИ ИХ ВСЕХ». 2.00** Х/ф **«НАПРОЛОМ». 4.00** Х/ф **«ДЕТИ БЕЗ ПРИСМОТРА». 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«ВОЛЬФ МЕССИНГ: ВИДЕВШИЙ СКВОЗЬ ВРЕМЯ». 14.00, 15.00, 6.00, 7.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 20.00, 21.00** Т/с **«БЛИЗНЕЦЫ». 22.00, 23.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 4.00, 5.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«БЕЗУМНО ВЛЮБЛЕННЫЙ». 2.55** Х/ф **«SUPERНЯНЬ». 4.35** Х/ф **«SUPERНЯНЬ 2». 6.20** Х/ф **«ИДЕАЛЬ». 8.10** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ». 10.15** Х/ф **«УМОПОМРАЧИТЕЛЬНЫЕ ФАНТАЗИИ ЧАРЛИ СВОНА – ТРЕТЬЕГО». 11.50** Х/ф **«ЛЮБОВЬ – ЭТО ДЛЯ ДВОИХ». 13.50** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ОТРЫВ». 15.25** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ОГОНЕК». 17.20** Х/ф **«УЧИТЕЛЬ ГОДА». 19.30** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ!». 21.20** Х/ф **«СВАДЬБА ПО ОБМЕНУ». 23.10** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.30, 1.30, 2.35, 4.00, 5.00, 6.10, 7.10** Оттепель. **8.30, 9.25, 10.20, 11.15, 12.10, 13.05, 14.00, 14.55, 15.50, 16.50, 17.45, 18.40, 19.35, 20.30, 21.20, 22.15** Чисто английские убийства. **23.10** Рокко Скьявоне.

### ВТВ

**6.00, 7.20, 8.15, 9.10, 10.35, 12.15, 12.55, 13.55, 14.40, 17.45, 23.45** Прогноз погоды на неделю. **6.05, 4.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **6.35, 5.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.25** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.20, 3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.15** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.45** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Т/с **«ЕРАЛАШ». 10.40** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **11.30** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00, 0.40** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **14.45** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР 2: СУДНЫЙ ДЕНЬ». 17.50** Х/ф **«ОЗ: ВОЗВРАЩЕНИЕ В ИЗУМРУДНЫЙ ГОРОД». 19.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 3: ВРАГ В ОТРАЖЕНИИ». 23.50** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **1.35** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым.

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Гандбол. Лига чемпионов. Финал 4-х. Полуфинал. Барселона (Испания) – Вардар (Македония). **8.40** Гандбол. Лига чемпионов. Финал 4-х. Полуфинал. Веспрем (Венгрия) – Виве (Польша). **10.25** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Финал. Тоттенхэм (Англия) – Ливерпуль (Англия). **12.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Дуйсбург. **14.20** Теннис. Ролан Гаррос. **16.05** Гандбол. Лига чемпионов. Финал 4-х. Матч за 3-е место. **17.50** Игры «на вырост». **18.20** Пит-стоп. **18.50** Спорт-центр. **20.45** Итоги недели. **21.30** Футбол. Чемпионат мира. U-20. 1/8 финала. В перерыве – Спорт-центр. **23.30** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура.

### EUROSPORT

**0.30** Конный спорт. Global Champions Tour. Гамбург. **2.00, 7.00, 11.25, 22.15** «Гейм, Шетт и Матс». **2.30, 5.00, 7.30, 9.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 20-й этап. **4.00, 6.00, 8.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Седьмой день. **10.30, 22.45** Теннис. «Ролан Гаррос». Матч дня. **11.55, 18.45, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Восьмой день. **14.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 21-й этап. **18.40** Велоспорт. «Джиро»-экстра. **23.45** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Обзор дня.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 17.15** Трасса А2. **7.35, 10.05, 13.40, 16.20, 19.20, 23.55, 1.25, 3.50** Итоговые новости. **7.50, 14.50** Покорители Азии 2. **8.20** Сити-тестер. **8.50, 1.55** Вечер с Пикуленко. **9.30** Мир танков. **10.25** Испытание на прочность. **10.50** Резьба по стали. **11.20, 19.35, 22.40** Металломщики. **12.05, 20.20, 23.25, 4.05** Автодело. **12.35, 20.50, 0.05, 4.35** Поездка выходного дня. **13.05, 13.55, 0.35** Байки про байки. **14.30, 1.10, 3.35** Тайный покупатель. **15.20, 21.20, 5.00** Автомобильные музеи мира. **15.50, 21.50, 5.30** Гараж для двоих. **16.35** Дома на колесах. **16.50, 18.50** Автодрайв. **22.20** Самообслуживание. **1.40** Все включено. **2.35** 9 злобных водителей.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.30** Приключения на рыбалке. **9.25, 10.15, 11.05, 17.10** Чудовищный карп. **11.55, 12.35, 13.25, 14.05, 14.50** Лесные люди. **15.35, 16.20** Австралийские охотники на лобстеров. **18.00, 18.50** Тренировка по древним традициям. **19.40, 20.30** Надсмотрщик. **21.20, 22.00** Австралийские золотоискатели. **22.50, 23.35** Дикая Монтана. **0.25, 1.15, 2.10** Короли разрушения. **3.10, 4.00** Строительство гигантов. **4.55, 5.25** Полигон.

### HISTORY

**7.00, 4.10, 5.30** Запретная история. **7.45, 8.40** Взрывная Земля. **9.40, 10.45, 11.50** Тайны шести жен. **13.00** Величайшие мистификации в истории. **13.55** Смертоносный интеллект. **14.50** Опасные дома послевоенных лет. **16.00, 17.05, 18.00** ДНК мертвых знаменитостей. **19.00** Вторая мировая в цвете. **20.05** Иудея и Рим: фатальный конфликт. **21.10, 21.45** Поворотный момент. **22.20** Загадки Египта. **23.15** История оружия. **0.20** Боевые корабли. **1.20** Тайная война. **2.20** Заговор. **3.15** Музейные тайны. **5.00** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20, 7.50, 8.15** Соединенные Штаты Животных. **8.45** Вулканическая одиссея. **9.35, 10.25, 11.15, 22.40, 23.25, 0.10** Вулканы: разрушение и сотворение. **12.05, 20.00** Фанаты природы. **12.55, 13.50, 14.45** Спасение Сирги. **15.40** Встречи старых друзей. **16.30, 17.20, 18.10** Удивительное семейство псовых. **19.05** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **20.50** Царство муссонов. **21.45** Дикая Бразилия. **0.55, 1.45** Жуткие, настоящие и странные. **2.35, 3.25** Хищные питомцы. **4.15, 5.10** Суперветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Увлекательная наука. **6.25** Панорама 360 Объект всемирного наследия. **7.15, 11.05** Авто-SOS. **8.00** Служба спасения Аляски. **8.45** В поисках наследия. **9.30, 10.20** Инстинкт выживания. **11.50, 12.35** Дикий тунец: Север против Юга. **13.20** Международный аэропорт Дубай. **14.05, 14.55, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10** Морган Фриман. **19.00, 21.25, 22.10** Враждебная планета. **19.50, 23.00** Удивительная планета: мир, созданный лавой. **20.35, 1.25, 2.15** Осушить океан. **23.45, 0.35** Неизвестная планета земля. **3.05, 3.55** Расследование авиакатастроф. **4.45** Инженерные идеи. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.35** Рождение клинка. **6.25, 23.05** Спиннинг сегодня. **6.55, 0.05** Рыболовные путешествия. **7.50, 19.25** Поплавочный практикум. **8.25, 20.00** По рекам России. **8.50** Охота в Карачаево-Черкесии. **9.20, 15.50, 20.55, 3.40** Спиннинг на камских просторах. **9.55, 21.30** Карпфишинг. **10.25** Уральская рыбалка. **10.55, 17.20, 1.10, 5.05** Трофеи. **11.25, 18.55, 1.35, 5.30** Водный мир. **11.55, 17.50** Смертельный улов. **12.40, 18.35** Две на одного. Оружие. **12.55** Какая дичь! **13.10** Камера, мотор... рыба! **13.40** Беларусь: в поисках хорошего клева. **14.10** Рецепты старого Тифлиса. **14.25, 2.20** Рыбалка-шоу ТВ. **14.50** На рыбалку с охотой. **15.20, 20.30, 3.10** Рыбалка сегодня XL. **16.25, 4.10** Рыбалка сегодня. **16.35, 4.20** Профессиональная рыболовная лига 2018. **17.05, 4.50** Кодекс охотника. **22.00** Рыболовы. **23.35** Рыбалка в России. **2.05** Дело вкуса. **2.45** Поймай и сними.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.50, 17.50, 21.35, 2.25** Дома на деревьях. **6.50, 10.30, 14.30, 18.35, 22.20, 3.10** Готовим на Майорке. **7.05, 10.50, 18.50, 22.35, 3.25** Городские дачники. **7.35, 11.20, 15.20, 19.20, 23.05, 3.50** У мангала. **8.05, 11.45, 15.45, 23.35, 4.15** Домик в Америке. **8.35, 12.15, 16.15, 20.20, 0.05, 4.45** Домоводство. **8.50, 12.35, 0.25** Ботаника с Павлом Стерховым. **9.20, 13.00, 17.05, 21.05, 0.50, 5.35** Лавки чудес. **13.30, 17.35, 2.15** Свечной заводик. **14.50** Стройплощадка. **16.35, 20.35, 5.00** Дачная энциклопедия. **19.50** Дачный эксклюзив. **1.20** Осторожно злая собака. **1.45** Зеленая аптека.

# Бальшавіцкія рэквізіцыі ў Хажове і зайцы ў Смаргоні

## Пра што пісала газета «Наша думка» ў 1921 годзе

**«Наша думка» – штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета. Выходзіла на беларускай мове ў Вільні ў 1920-1921 гадах. Рэдактарам-выдаўцом быў пісьменнік Максім Гарэцкі. Выйшла 27 нумароў. А пасля газету забаранілі польскія ўлады.**



Фота rasija.com.

Будынак базыльянскай школы ў Барунах. У пачатку 1920-х гадоў тут была беларуская настаўніцкая семінарыя, пра што пісала газета «Наша думка».

На старонках выдання часта з'яўляліся матэрыялы з рэгіёна.

### Настаўнік з Лебедзева ратаваў сялян ад бальшавікоў

У восьмым нумары за 1921 год у рубрыцы «Правінцыяльны аддзел» ёсць звесткі з вёскі Хажова, што на Маладзечаншчыне. «У лістападзе мінулага года ў нашай вёсцы адчынілася беларуская школа, дзякуючы ўраду Сярэдняй Літвы, што дазволіў адчыняць беларускія школы. Мы шчыра вітаем гэты добры пачатак.

Раней урад Усходніх Крэсаў таксама дазваляў адчыняць беларускія школы, але толькі на паперы. Дзеля адчынення і збудавання школы ў нашай вёсцы шмат папрацаваў знаёмы нам добра свядомы настаўнік-беларус **А. Гайка**. Гэты настаўнік яшчэ пры бальшавіках стараўся адчыніць двухкласовую беларускую школу для нашай і другіх вёсак. Яму прыходзілася змагацца з чырвонаармейцамі, якія руйнавалі школьны будынак. Не раз ён ратаваў сялян ад бальшавіцкіх рэквізіцый і радаю, і дзелам. За што не раз пагражалі яму арыштам». Матэрыял падпісаны псеўданімам **Хмуры**.

У гэтым жа нумары школьны інструктар **С. Шыманскі** паведамляе, што быў прызначаны інспектарам позна, у снежні 1920 года. Таму заклаў у Ашмянскім павеце толькі 16 беларускіх школ. Піша таксама, што не хапае настаўнікаў і няма магчымасці прывезці іх з Вільні.

### Пра трохгоддзе БНР і семінарыю ў базыльянскіх мурах

У №11 ад 18 сакавіка 1921 года паведамляецца важная навіна для ўсёй Беларусі пра тое, што 25 сакавіка будзе тры гады з часу абвяшчэння Беларусі незалежнай рэспублікай. «Па месцах, мястэчках і весях, дома і на чужыне рыхтуйцеся да вялікага свята!».




Пра семінарыю і дырэктара Сымона Рака-Міхайлоўскага паведамляе мемарыяльная дошка.

У тым жа нумары ў рубрыцы «Правінцыйны аддзел» у матэрыяле, падпісаным аўтарам **Адзін з бацькоў**, паведамляюць пра адкрыццё ў былых базыльянскіх мурах у Барунах, на Ашмяншчыне, беларускай настаўніцкай семінарыі. Прапанова зацікавіла мясцовую моладзь, і ў дзень экзаменаў, 15 лютага, у Барунах сабралася шмат хлопцаў і дзяўчат.

Да 20 лютага ў семінарыю прынялі 42 хлопцаў і 16 дзяўчат. Атрымалася два класы. Дырэктарам семінарыі быў грамадскі дзеяч **Сымон Рак-Міхайлоўскі**. Вывучалі рымска-каталіцкую рэлігію, геаграфію, беларускую, нямецкую і польскую мовы, гімнастыку, «пяянне». Навучэнцы былі з Барунаў, Крэва, Палачанаў, Лебедзева, Гальшанаў, Паланаў, Заброззя.

Пры семінарыі быў інтэрнат на 35 чалавек. Навучэнцаў кармілі. Ежу гатавалі з тых прадуктаў, што давалі бацькі, і з «амерыканскіх дароў».

Са стварэннем семінарыі занядбаны будынак адрамантавалі.

### Як змянілася Смаргонь пасля вайны

Нумар 13 ад 1 красавіка 1921 года распавядае нам пра Смаргонь, а дакладна, «мястэчка Смаргоні». «Смаргоні ў мірны час выглядалі як які гарадок. Былі тут дзве царквы і адзін касцёл. Дамоў – палова мураваных, палова драўляных. Былі два рынкі, на каторыя збіраліся кожную сераду і пятніцу на торг. Вуліцы былі брукаваныя, а па баках ходнікі. На вуліцах – ліхтары, што кожны вечар асвятлялі ўсё мястэчка. Людзей жыло каля пяці тысяч».

Вайна, па назіраннях аўтара, значна змяніла выгляд Смаргоні. «Цяпер мястэчка выглядае як тая высечаная пушча: засталіся толькі адныя пні, зарослыя травой. Дамы папалілі на попел. А муры разбураныя і пазараслыя травой і кустамі. Рынкі таксама зарослыя па пояс травой. Вечарам тут цёмна ўсюды. Рэдка дзе пакажацца агонь з зямлянак ці склепаў. Людзей рэдка пабачыш. Часцей – зайцоў, якіх тут шмат развялося».

### Пра акцёраў з вёскі Гарадок

У наступным нумары – звесткі з Гарадка – вёскі тады Вілейскага павета, а сёння – Маладзечанскага раёна. Аўтар **Гарадоцкі** піша, што летась у Гарадку ў будынку, дзе цяпер гімназія, пяць разоў ставілі беларускія спектаклі. Кожны раз гледачам не хапала месцаў. Нават стаяць не было дзе. Ставілі п'есы «Чорт і баба», «Паўлінка», «Сватанне». «Артысты ігралі добра. А сёлета галоўны арганізатар **Барыс Ігнатовіч** нешта заленаваўся. **Янук Сцерпужынскі** і **Янук Награбецкі** шмат разоў ужо ўспаміналі, каб зноў што паставіць, бо так надта маркотна. Шкода, што ў нас няма кабет-артыстак. Тая, што лепш іграла, **Стэпка Наркевіч**, выехала. Але пастараўшыся, усё можна зрабіць».

І ў гэтым жа лісце аўтар скардзіцца на рэдакцыю газеты, у якую піша: «Наша думка» прыходзіць дужа неакуратна, што вельмі ўсім прыкра. Не думаем, каб вінавата была толькі пошта. Просім паважанага рэдактара разабраць гэту справу сваёй канторы.

А яшчэ ў 1920-я гады ў Гарадку жылі паэты. У нумары надрукаваны верш Пятра Прадухі з Гарадка. Твор вялікі, называецца «Трэба ўчыцца». Вось яго пачатак:

*Сем гадкоў*
*была вайна –*
*Чыстае мучэнне.*
*І за гэты час у нас*
*Дзеткі без вучэння.*

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

---

**● КАЛЯНДАР**

**25 МАЯ**

**1905.** Нарадзіўся **Сяргей Хмара** (сапр. Сіняк), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і беларускай эміграцыі, пісьменнік, паэт, журналіст, выдавец. Працаваў настаўнікам у Заходняй Беларусі за польскім часам. У 1920-я гады член Таварыства беларускай школы ў Радашкавічах і Вільні, удзельнік Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Памёр 5 верасня 1992 года ў Канадзе.

**1917.** Памёр **Максім Багдановіч**, паэт, перакладчык, крытык. Пахаваны на старых гарадскіх могілках у Ялце.

**26 МАЯ**

**1909.** 110 гадоў з дня нараджэння **Часлава Ханяўкі** (г. Рыга, Латвія), беларускага грамадскага дзеяча. Сям'я паходзіла з Будслава. Стрыечны брат В. Жука-Грышкевіча. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і аграномічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі дзейнічаў у варшаўскім Беларускім нацыянальным камітэце. З пачатку 1950-х жыў у ЗША ў Саўт-Рыверы. Актыўна дзейнічаў у беларускім асяроддзі. З жонкай Марыяй меў дачку Рагнеду. Памёр 2 ліпеня 1988 года і пахаваны на беларускіх могілках Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку (ЗША).

**28 МАЯ**

**1836.** Нарадзіўся **Ян Карловіч**, лінгвіст, этнограф, фалькларыст, музыказнаўца. Уладальнік маёнтка ў Вішневе (Смаргонскі раён). Сабраў і апублікаваў некалькі соцень беларускіх паданняў, казак, песень. Супрацоўнічаў з Міхалам Федароўскім, аўтарам шматтомнай працы «Люд беларускі». Сябраваў з Францішкам Багушэвічам. Сын, Мечыслаў Карловіч, стаў знакамітым кампазітарам. Памёр 14 чэрвеня 1903 года ў Варшаве.

**1863.** У баі каля в. Уладыкі (цяпер Вілейскі раён) забіты **Вікенці Козел**, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гг. Пахаваны ў брацкай магіле (каля 70 чалавек), пазней перапахаваны на радзіме ў Сэрвачы (цяпер Вілейскі раён). Нарадзіўся ў 1838 годзе.

**1905.** Першая публікацыя **Янкі Купалы** (верш «Мужык» у газеце «Северо-Западный край»).

**30 МАЯ**

**1999.** 20 гадоў назад здарылася трагедыя на «Нямізе», у выніку якой у падземным пераходзе станцыі мінскага метрапалітэна «Няміга» загінулі 53 чалавекі, пераважна дзяўчаты і юнакі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Анхела

**Апошнім часам у Беларусі падняліся размовы пра шматдзетныя сем'і, якія ў іх правы ў беларускай дзяржаве, эканамічныя і сацыяльныя перавагі. Як вядома, маладым сем'ям жывецца нялёгка, відаць, ва ўсім свеце, прынамсі, у пачатку, бо сон усім патрэбны, і яго заўжды не хапае (з таго, што я чула). Калі гэта маладая шматдзетная сям'я – тым больш.**


Фота spielwarenmesse.de.

У рэгіёнах Іспаніі палітыка падтрымкі шматдзетных сем'яў можа мець свае асаблівасці.

# Ці варта вам з дзецьмі пераехаць у Іспанію?

**Кожная краіна мае свой індывідуальны падыход да дапамогі такім сем'ям. Вось і мяне спыталі, як выглядае сітуацыя ў Іспаніі. Хоць дзяржава ў нас не цэнтралізаваная і палітыка рэгіёнаў крыху адрозніваецца, я здолела знайсці агульныя арыенціры, паводле якіх кіруюцца ўлады ў дачыненні да (шчаслівых?) вялікіх сем'яў.**

Па-першае, варта вызначыць, якія сем'і лічацца шматдзетнымі ў Іспаніі. Для пачатку, існуюць дзве катэгорыі шматдзетных сем'яў: **звычайная** (familia numerosa **general**) і **асаблівая** (familia numerosa **especial**). Звычайныя шматдзетныя сем'і – гэта тыя, дзе ёсць

А) трое дзяцей;

Б) двое дзяцей, адно з якіх – з інваліднасцю, большай за 33%. Дзіця з інваліднасцю – гэта як двое дзяцей у сям'і;

Інваліднасць у Іспаніі лічыцца ў працэнтах «залежнасці» чалавека, наколькі ён можа весці самастойнае жыццё, што можа ці не можа рабіць. Ад 33 да 65 працэнтаў, я сказала б, гэта эквівалент беларускай другой групы (рабочай).

В) бацька альбо маці з дваімі дзецьмі, калі адзін з бацькоў (бацька ці маці) памёр (тут не важна, ці былі бацькі ў шлюбе, ці не, хаця юрыдычна нашмат лягчэй даказаць усё патрэбнае, калі так);

Г) абое бацькоў з інваліднасцю і дваімі дзецьмі, альбо

Д) адзін з бацькоў з інваліднасцю ад 65% з дваімі дзецьмі (агульнымі ці не), і

Е) у разводзе з траімі ці больш дзецьмі (прызначаюцца толькі аднаму з бацькоў), нават калі не жывуць разам.

Сем'і з абаімі бацькамі і чацвярыма дзецьмі могуць лічыцца звычайнымі альбо асаблівымі шматдзетнымі ў залежнасці ад заробку бацькоў (калі перакрочаць пэўную мяжу, то гэта – звычайная шматдзетная сям'я). Ад пяцярых дзяцей сям'я аўтаматычна лічыцца асаблівай шматдзетнай.

Па-другое, да якога часу даюцца перавагі? Паводле закона 2015 года, да таго, як наймалодшае дзіця дасягне ўзросту 21 (калі працуе і не залежыць эканамічна ад бацькоў) альбо 26 гадоў (калі вучыцца). Старэйшыя браты і сёстры губляюць гэтыя «плюсікі», калі ўзрост адпаведны, але бацькам і малодшым захоўваюцца правы да таго, як апошні чалавек пакідае метафарычнае гняздо.

А цяпер давайце пра цікавае – раскажу, якія перавагі ёсць:

Плата ў памеры 1000 еўра за нараджэнне ці ўсынаўленне дзіцяці даецца шматдзетным сем'ям, сем'ям, дзе толькі адзін бацька ці маці, і сем'ям, дзе маці мае інваліднасць, вышэйшую за 65% (адпаведна, ад другой нерабочай да першай групы ў Беларусі). Ёсць абмежаванні паводле заробку сям'і.

Бясплатнае афармленне і аднаўленне пашпарта і асабістай карты (унутранага пашпарта). Шматдзетныя сем'і не сплачваюць пошліны.

Бясплатны ці таннейшы ўваход у дзяржаўныя музеі Іспаніі. Тое ж робяць пэўныя кінатэатры і крамы, нягледзячы на тое, што яны не з'яўляюцца дзяржаўнымі ўстановамі.

Зніжка 20% (для звычайных шматдзетных сем'яў) альбо 50% (для асаблівых) у дарожным і чыгуначным транспарце, і да 10% – у нацыянальных авіярэйсах.

Зніжка 50% у адукацыйных коштах (напрыклад, права на дзяржаўныя іспыты, плата за навучанне ва ўніверсітэце). Большыя шанцы на стыпендыі (дзецям шматдзетных сем'яў прызначаецца больш балаў у стыпендыяльнай сістэме за свой статус).

Падатковыя перавагі. Насамрэч, гэта прызначаецца і сем'ям з меншай колькасцю дзяцей: за кожнае дзіця прызначаецца пэўная сума, якая «адымаецца» з заробку сям'і, што лічыцца для падаткаў (у выніку, натуральна, такія сем'і сплачваюць менш падаткаў).

Дадатковыя падатковыя перавагі, калі шматдзетная сям'я наймае чалавека для дапамогі з дзецьмі і домам. Для звычайных сем'яў трэба, каб абое з бацькоў працавалі па-за домам. У выпадку асаблівых сем'яў, гэтыя перавагі прызначаюцца незалежна ад таго, ці абое з іх працуюць.

Зніжка да 50% у падатку за рэгістрацыю транспартных сродкаў, якія маюць не менш за пяць месцаў і не больш за дзевяць (найчасцей, калі набываюць вялікую сямейную машыну).

Паменшаная плата за электрычнасць (зніжка 25% да 4150 кВт у год).

Працоўнае месца захоўваецца даўжэй, калі адзін з бацькоў часова сыходзіць з працы, каб займацца дзецьмі. У выпадку першага дзіцяці, працоўнае месца захоўваецца на працягу 12 месяцаў. У выпадку звычайных шматдзетных сем'яў – 15 месяцаў. Для асаблівых – аж 18 месяцаў.

Паляпшэнні ў пенсіі маці: 5%, калі жанчына нарадзіла двое дзяцей, 10% – за трое, 15% – за чацвёра ці болей дзяцей.

Да таго ж, маці, якія працуюць, могуць атрымліваць падатковыя перавагі і за свой статус, і за кошты дзіцячага сада.

Я не ведаю дакладна, як справы выглядаюць у Беларусі ў параўнанні з Іспаніяй. Шчыра скажу – я папрасіла дапамогі ў сваёй маці і дзядзькі інтэрнэту дзеля напісання гэтага тэксту, бо я чалавек далёкі ад сямейнага (гэта, дарэчы, можа стаць тэмай чарговага артыкула, калі цікава). І хоць чула пра некаторыя з гэтых пераваг, асабліва ад аднагрупнікаў, якія належалі да шматдзетных сем'яў, мяне здзівіла колькасць іншых момантаў, якія не ўлічвала раней.

Мяркую, падчас круглага стала (пра яго чытайце ў наступным нумары «РГ») мы ўсе даведаемся больш пра беларускую сітуацыю шматдзетных сем'яў, і вы, дарагія шматдзетныя чытачы, зможаце вырашыць, пераехаць вам на поўдзень ці не. А пакуль я пакідаю вас з гэтымі дадзенымі, даю час на развагі, параўнанні і пераліку і развітваюся да наступнага разу. Няхай усе вашы дзеткі растуць здаровымі! А калі іх няма – то самі будзьце здаровыя, сябры!



Анхела ЭСПІНОСА РУІС
г. Малага (Іспанія)
паэтка, магістр філалогіі
angeespi@ucm.es

# Што Андрэй Мікульчык пераняў з Італіі ў Маладзечна

**З маладзечанскага хлопчыка, які да 16 год увогуле не займаўся музыкай, атрымаўся оперны спявак, які ўжо выступаў у Італіі і Маладзечне.**

Андрэй Мікульчык мінулым жніўнем удзельнічаў у пятым фестывалі опернай музыкі «Студыя Лірыка Руфіна». Разам з ім удзельнічалі музыканты з розных краін – Чэхіі, Германіі, Расіі, Паўднёвай Карэі. Там жа нарадзіўся праект сабраць іх на агульны канцэрт на сцэне ў Маладзечне. Гэты канцэрт гараджане пабачылі ў канцы красавіка.

Паездка і ўдзел у італьянскім фестывалі сталі магчымыя дзякуючы праекту «МОСТ» і падтрымцы Еўрасаюза. Ахвотныя могуць ісці па слядах Андрэя і таксама падаць заяўкі для падтрымкі ўдзелу ад праграмы «МОСТ» у важных для сябе праектах.

У межах падтрымкі Андрэй атрымаў курс навучання, удзельнічаў з іншымі ў шасці канцэртах, атрымаў мноства прафесійных кантактаў, а цяпер плануе новыя праекты, якія збіраецца ўвасобіць у Беларусі з прымяненнем набытага ў Італіі досведу.

### Як падаў заяўку

Пра магчымасць паўдзельнічаць у падобным праекце Андрэй даведаўся выпадкова ад знаёмай. Выграшый скарыстацца такой магчымасцю і струнны квартэт музкаледжа – разам з ім паставілі ў Маладзечне оперу, але ездзілі па розных праграмах. Андрэю аплацілі дарогу, пражыванне, вучобу. У выніку супрацоўніцтва з'явілася шмат ідэй. Цяпер маладыя людзі плануюць паставіць яшчэ адну оперу разам з міжнароднай асацыяцыяй па прасоўванні маладых оперных выканаўцаў «Студыя Лірыка». Тое, што такая задума можа атрымаць жыццё, у значнай ступені стала магчымым дзякуючы праекту «МОСТ».

Заяўку на ўдзел у праекце Андрэй пісаў год таму. Склаў план паездкі, патлумачыў, чаму хоча паехаць, чым гэта будзе карысна асабіста і краіне, якія прафесійныя кантакты набудзе.

Арганізатары фестывалю «Студыя Лірыка Руфіна» ўжо мелі праграму для ўдзельнікаў, таму Андрэй уключыў яе ў заяўку. Спачатку атрымаў адмову і моцна засмуціўся. Але праз некалькі гадзін перателефанавалі і паведамілі, што адмову адправілі па памылцы, на самой справе заяўку прынялі. «Ледзь сэрца ад радасці не спынілася», дзеліцца малады мужчына.

### Што было ў паездцы

У Італіі акрамя вучобы і выступленняў быў прыемны бонус навучання мове. У музкаледжы імя Агінскага італьянская мова абавязковая для вакалістаў – калі спяваеш оперы, неабходна разумець іх сэнс. А праца з італьянскім выкладчыкам **Джадай Таніні** ў межах курса паглыбленага вывучэння італьянскай дапамагла зразумець некаторыя тонкасці мовы.

Асноўныя заняткі былі з маэстра **Паола дэ Напалі** і піяністам **Марка Бароні**.

Фестываль праходзіў у горадзе Руфіна. У адной з віл горада праходзілі канцэрты ўдзельнікаў праграмы, якія прыехалі з розных краін. У невялікім дамку ля вілы жылі ўдзельнікі майстар-класа.

Кожны дзень Андрэй займаўся з Паола дэ Напалі вакальнай тэхнікай. З Марка Бароні займаліся дыкцыяй, ён тлумачыў асаблівасці оперы, карэктаваў музычныя моманты.

Выступалі з канцэртамі, двойчы паставілі оперу «Служанка-гаспадыня». Яе з удзелам Мікульчыка маладзечанцы пабачылі мінулым чэрвенем і ў лістападзе. Як у Маладзечне, так і ў Італіі оперу прынялі вельмі цёпла.

### Як стаў спеваком

«Можна быць вельмі таленавітым і любіць музыку. Але калі ты нечага не ведаеш, то ты проста не ведаеш, як павінна быць. Такое супрацоўніцтва вельмі дапамагае даведацца», – тлумачыць Андрэй, чаму неабходна шмат вучыцца, чым бы ты ні займаўся.

Андрэй рос у Маладзечне, вучыўся ў фізіка-матэматычным класе гімназіі №6. Мама іграла на скрыпцы ў сімфанічным аркестры музкаледжа, тата спявае пад гітару і піша песні для сябе.

Пры гэтым сам Андрэй да 16 год не займаўся музыкай ніяк і ніколі не вучыўся ў музычнай школе. Мама прапанавала кіраўніку групы «Менестрэлі» **Аляксандру Важніку** паслухаць. Хадзіў да яго на прыватныя ўрокі, Важнік паверыў у хлопца. Творчыя людзі часта займаюцца з самага дзяцінства спевамі, музыкай, танцамі. Але настойлівыя трэніроўкі часам адбіваюць усю ахвоту да творчасці. Андрэй жа сам абраў, чым хоча займацца.

Акрамя спеваў, навучыўся іграць на гітары і фартэпіяна. Аляксандр Важнік параіў паступіць у музычны каледж вучыцца акадэмічным спевам.

«Калі моцна хацець і многа вучыцца, можна дабіцца ўсяго. Калі я спяваў у школе, аднакласнікі казалі, што мне мядзведзь на вуха наступіў, куды ты лезеш! Мама ж музыкант кажа, ты ж ні ў адну ноту не трапляеш!», – прыгадвае Мікульчык. Усё памянялася, калі хлопец пачаў займацца з маэстра Паола дэ Напалі. Той патлумачыў, што спевам можна навучыцца, як любому іншаму.

У музычным каледжы Андрэй так і не давучыўся – кінуў на трэцім курсе, таму што пачаў займацца з італьянскім маэстра. Вакальныя тэхнікі каледжа і маэстра розныя, таму заняткі па абедзвюх праграмах былі б канфліктам.



Оперны спявак з Маладзечна Андрэй Мікульчык.

### Як пазнаёміўся з маэстра

Андрэй вучыўся на трэцім курсе, калі ў Маладзечна прыехаў саліст Марыінскага тэатра былы навучэнец музкаледжа **Уладзіслаў Сулімскі**. Яму трэба было, каб нехта завёз у Мінск, у хлопца былі правы, ён і завёз. Там ва Уладзіслава былі заняткі з Паола дэ Напалі. Андрэй спытаўся: «Маэстра, можа вы і мяне паслухаеце?» З таго часу ён з маэстра пачалі займацца. Раней спявак быў басам, цяпер тэнар.

«Я цалкам даверыўся маэстра. Ён часам казаў дзіўныя рэчы, але гэта заўсёды працавала. Калі ты ў некага вучышся, гэта павінна быць дыктатура настаўніка. Ён узяў на сябе адказнасць навучыць мяне, ён ведае, чаму так. І ўзорам быў поспех Славы Сулімскага, які слухаў маэстра безумоўна. Цяпер ён адзін з найлепшых барытонаў свету».

У мамы Андрэя былі стрэсы за стрэсамі – то сын ідзе ў музыку, ужо і паступіў нават, а тут кідаць збіраецца. «А бацька сказаў, што калі я змагу яго пераканаць, чаму гэта важна, ён падтрымае рашэнне. Цяпер мама задаволеная, як усё склалася, і з задавальненнем ходзіць на канцэрты».

### Чаму неабходна працаваць з італьянцамі

«Паказаць оперу такой, якой яна мусіць быць, можна толькі з дапамогай італьянцаў. Дзякуючы праекту «МОСТ» мы даведаліся вельмі шмат нюансаў і традыцый. І хаця опера па-італьянску, яна зробленая якасна, таму яе і прынялі добра ў Маладзечне».

У Італіі ўдзельнікі праграмы задумалі зладзіць вялікі канцэрт, які з поспехам адбыўся ў Маладзечне 29 красавіка. Усе спевакі, якія прыехалі, – тыя, з кім задумалі канцэрт яшчэ ў Руфіне.

Ёсць задума і будучых міжнародных музычных праектаў, ад якіх змогуць атрымаць асалоду маладзечанцы. Развіццё опернай музыкі ўплывае на жыхароў – горад сонца называюць культурнай сталіцай Міншчыны. У Беларусі оперу акрамя сталіцы ставілі ў Маладзечне. Якасная музыка дапамагае не толькі пачуць прыемныя гукі, яна ўплывае на фарміраванне густу. Так частку італьянскага густу і стылю праз оперу атрымаюць і маладзечанцы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**



*Артыкул падрыхтаваны ў межах сумеснага праекта з EU Neighbours East «Свой край: партрэты». Погляды, выяўленыя ў тэксце, належаць выключна аўтару артыкула.*

## Як далучыцца да праграмы «МОСТ»

**Атрымаць падрабязную інфармацыю пра праграму «МОСТ» і запоўніць анкету вы можаце на сайце most-belarus.eu.**

Мэта праграмы «МОСТ» — дапамога ў наладжванні кантактаў паміж грамадзянамі Беларусі і краін Еўрапейскага саюза. Вы можаце стаць суіскальнікам, калі плануеце:

- набываць новы досвед і веды;
- супрацоўнічаць с замежнымі калегамі ў розных галінах;
- арганізоўваць сумесныя праекты з еўрапейскімі партнёрамі;
- пазнаёміцца з інавацыямі, прадуктамі, перадавымі тэхналогіямі;
- прадставіць Беларусь, дасягненні і вынікі сваёй працы ў ЕС.

Для суіскальнікаў праекта «МОСТ» практычна не існуе абмежаванняў па ўзросце (ад 18 гадоў), адукацыі і сферах дзейнасці.

Тэматыка праекта разнастайная: навука, тэхналогіі, бізнес, інавацыі, IT, культура, ахова здароўя, развіццё грамадзянскай супольнасці, спорт, турызм, іншыя вобласці.

Спосабы наладзіць кантакты ў ЕС:

- майстар-класы;
- канферэнцыі;
- фэсты;
- выставы;
- азнаямляльныя візіты ў арганізацыі, кампаніі і навучальныя ўстановы;
- стажыроўкі рознай працягласці.

# Чаму Еўрасаюз выдае мільёны еўра

## 10 гадоў Усходняму партнёрству – што яно дае рэгіёну?

**Сёлета Усходняе партнёрства адзначае сваю першую круглую дату. У Брусэлі з гэтай нагоды 13 і 14 мая адбыўся юбілейны саміт, у якім прымалі ўдзел міністры замежных спраў краін-удзельніц.**

У гэтай падзеі ўдзельнічала карэспандэнт «РГ».

І калі міністры добра ведаюць, што азначае Усходняе партнёрства для нашых краін, то ў жыхароў Павілля могуць узнікаць пытанні: а навошта яно нам? Што зьмяняецца канкрэтна для мяне ад таго, што Беларусь застаецца краінай Усходняга партнёрства? І якія важныя словы прагучалі на юбілейным саміце? Разбіраемся ў гэтых пытаннях разам.

### Мінулае: за 10 год ЕС стаў другім гандлёвым партнёрам

Усходняе партнёрства дзесяць гадоў таму аб'ядняла краіны ЕС з шасцю краінамі-суседкамі: Арменіяй, Азербайджанам, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай.

Супрацоўніцтва паміж імі пачалося ў самых розных галінах – ад узмацнення эканамічных сувязяў да вырашэння экалагічных праблем і моладзевых абменаў.

Часам можна пачуць скептычнае меркаванне пра тое, што ў шасці краінах Усходняга партнёрства вельмі нераўнамерна развіваюцца адносіны з ЕС. З-за гэтага іх лепей падзяліць на дзве групы. У адной будуць Украіна, Грузія і Малдова, якія ўжо маюць бязвізавы рэжым з ЕС. У другой застануцца Беларусь, Арменія і Азербайджан, перамены ў якіх адбываюцца куды больш павольна.

Удзельнік Еўрапейскай камісіі Ёханэс Хан не згодны з такім падзелам.

> **– Вядома, ЕС мае свае мэты ў дачыненні да краін Усходняга партнёрства, – зазначыў ён на сустрэчы з журналістамі ў Брусэлі. – І для ўсіх яны аднолькавыя – пашыраць дабрабыт, мір і першынство закона.**

У кожнай з краін Усходняга партнёрства ёсць розныя палітычныя магчымасці і ўмовы жыцця. Мы павінны іх паважаць, каб не ствараць клопатаў. Некаторыя краіны падпісалі больш дакументаў па збліжэнні з ЕС. Але мы знаходзімся ў працэсе іх падпісання і з астатнімі.

Сярод тых пытанняў, якія падымаліся ў межах Усходняга партнёрства, на слыху ў беларусаў праблемы смяротнага пакарання, свабоды слова і медыяў, зменаў клімату, фінансавая падтрымка беларускіх кампаній і шматлікія моладзевыя абмены.

> **110 мільёнаў еўра – столькі склала дапамога Беларусі з боку ЕС у межах Еўрапейскага інструмента суседства за 2014-2018 гады.**

На сёння ЕС з'яўляецца другім па велічыні гандлёвым партнёрам Беларусі, на долю якога прыпадае амаль траціна агульнага тавараабароту краіны. Ад 2009 года, калі пачалося Усходняе партнёрства, гандлёвыя патокі паміж Беларуссю і ЕС павялічыліся на 18,5%.

### Сёння: «Дзякуючы праграме моладзевага абмену з'явілася больш за мільён дзяцей»

Падводзячы вынікі папярэдніх дзесяці гадоў Усходняга партнёрства, старшыня Еўрапейскай камісіі Жан-Клод Юнкер адзначыў, што ЕС і Беларусь вядуць перамовы аб прыярытэтах партнёрства.

Цікава, што, выступаючы на французскай мове, спадар Юнкер «спатыкнуўся» аб назву нашай краіны: «Як правільна – Беларусь ці Беларусія? У любым выпадку, вы разумееце, аб якой краіне я кажу».

Вынікі дзесяцігоддзя на прыкладзе нашага рэгіёна асабліва добра відаць у развіцці мабільнасці, моладзевых абменаў і сферы экалогіі.

Моладзь усё часцей становіцца ўдзельнікам міжнародных праграм і абменаў. Напрыклад, **Павел Палубінскі** з Маладзечна стаў Паслом еўрапейскай моладзі. У межах гэтай ініцыятывы маладыя людзі з шасці краін Усходняга партнёрства ўдзельнічаюць у адукацыйных і развіваючых праграмах, а пасля дзеляцца атрыманым досведам з равеснікамі на радзіме.



Уладзімір Макей выступае перад журналістамі ў Брусэлі.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

> **Усё больш папулярнай у Беларусі становіцца праграма студэнцкіх і выкладчыцкіх абменаў Erasmus+. Ад 2009 года беларусы прынялі ўдзел у больш за 3000 абменаў.**

Як напаўжартам, напаўсур'ёз адзначыў у сваім выступленні старшыня Юнкер, «больш за мільён дзяцей нарадзілася ў Еўропе дзякуючы гэтай праграме».

Выключна для Беларусі ў ЕС быў распрацаваны праект «МОСТ». Падаўшы на яго заяўку, беларусы могуць знайсці сабе партнёраў у ЕС, наведаць іх і павучыцца іх досведу ў сферах культуры, адукацыі, навукі, эканомікі, аховы здароўя, энергетыкі і дзяржкіравання.

Напрыклад, **Аляксандр Кушнер** з Ашмянаў, які працуе футбольным трэнерам, змог наведаць Германію і атрымаць прафесійныя парады ад прадстаўнікоў Берлінскага футбольнага саюза.

Тры гарады нашага рэгіёна далучыліся да пакта мэраў. Удзельнікі гэтага масавага руху добраахвотна бяруць на сябе абавязацельства развіваць свой горад на прынцыпах устойлівай энергетыкі. Усяго да пакта далучылася 46 гарадоў Беларусі.

> **У нашым рэгіёне першымі сталі Ашмяны – у 2012 годзе яны ўзялі на сябе абавязацельства скараціць выкіды парніковых газаў на 20% да 2020 года. У 2016 далучылася Вілейка, а ў 2017 – Смаргонь. Яны будуць скарачаць выкіды на 30% да 2030 года.**

І гэтыя, і іншыя праграмы і ініцыятывы Усходняга партнёрства адкрытыя для новых удзельнікаў і чакаюць заявак ад ініцыятыўных беларусаў.

### Будучае: чакаем візы па 35 еўра і ніякага малога памежнага руху

Пытанне ў стасунках з ЕС, якое хвалюе шараговага беларуса, – калі патаннеюць шэнгенскія візы? Цяпер беларусы плацяць за візу 60 еўра. Пры гэтым расіяне плацяць 35 еўра, а ўкраінцы, малдаване і грузіны ўвогуле могуць наведваць краіны Шэнгенскай прасторы без віз.

Нашы суседзі карыстаюцца такімі прывілеямі, бо іх кіраўніцтва

# на развіццё Беларусі

абагнала Беларусь у падпісанні важных міжнародных дакументаў – дамоваў па візавай фасілітацыі і рэадмісіі. Першая дазваляе знізіць кошт Шэнгенскай візы да 35 еўра, а таксама выдаваць большую колькасць бясплатных і шматразовых віз. Другая – гэта пагадненне аб тым, што краіна за свой кошт гатовая вяртаць на сваю тэрыторыю сваіх грамадзян, якія трапляюць пад дэпартацыю. Гэты дакумент важны для мігрантаў і органаў правапарадку.

Інфармацыю аб тым, што два дакументы неўзабаве будуць падпісаныя, беларусы ўпершыню пачулі амаль пяць гадоў таму. Ужо тады казалася пра тое, што перамовы па гэтым пытанні «знаходзяцца на завяршальнай стадыі». За гэты час перамовы так і не завяршыліся, а дакументы ўпаўнаважаныя асобы не падпісалі.

**1935 дзён – менавіта столькі ідуць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС на момант напісання гэтага тэксту. Лічыльнік устаноўлены на сайце грамадскай арганізацыі «У Беларусь і Еўропу – без візы!» і спраўна лічыць дні ўжо пяты год.**

Уладзімір Макей запэўніў журналістаў у Брусэлі, што да канца 2019 года дамовы ўсё ж падпішуць.

– Праца над гэтымі дакументамі практычна завершаная, – зазначыў міністр. – Каб перайсці да фінальнай стадыі, трэба прайсці адпаведныя працэдуры. Я перакананы, што мы зможам завяршыць гэту працу ў бліжэйшы час.

Калі ж Беларусь так і не падпіша патрэбныя дакументы, то ў бліжэйшай будучыні кошт Шэнгенскай візы ўзрасце ад 60 да 80 еўра.

Гэта было б асабліва непрыемным, улічваючы «візавую добрасумленнасць» беларусаў: паводле статыстыкі, мы лідзіруем па колькасці шэнгенскіх віз на душу насельніцтва, маем нізкую колькасць адмоў у выдачы віз і рэдка парушаем заканадаўства ЕС па знаходжанні ў Шэнгене.

**64 месца займае Беларусь у індэксе пашпартоў свету, які быў абноўлены ў сакавіку 2019 года. Без візы беларусы могуць наведаць 77 краін.**

Першае месца ў рэйтынгу займаюць Японія, Сінгапур і Паўднёвая Карэя – грамадзянам гэтых краін не патрабуюцца візы для ўезду ў 189 краін. На апошнім, 130-м месцы, – Афганістан і Ірак з магчымасцю наведвання 30 дзяржаў.

### А што з малым памежным рухам?

Гэта пытанне актуальнае для жыхароў нашага рэгіёна. Калі б малы памежны рух (МПР) з Літвой стартаваў, жыхары Астраўца, Ашмянаў і іншых гарадоў, якія знаходзяцца не далей за 30 км ад мяжы з Літвой, маглі б наведваць памежную тэрыторыю Літвы без віз. Замест іх яны атрымлівалі б спецыяльнае доўгатэрміновае пасведчанне.

МПР стартаваў паміж Беларуссю і Латвіяй. А вось у выпадку з Літвой і Польшчай дакументы так дагэтуль і не падпісаныя беларускім бокам. І, хутчэй за ўсё, такімі і застануцца, паколькі актуальнасць МПР адышла на іншы план. Пра гэта міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Макей** паведаміў на апошнім саміце Усходняга партнёрства.

– Цяпер гэта пытанне ніхто і не падымае, – сказаў міністр. – Нам трэба думаць далей, наперад, як зрабіць так, каб візавы рэжым не перашкаджаў турызму, бізнесу, звычайным грамадзянам. Мы павінны працаваць над агульным спрашчэннем візавага рэжыму, і тады неабходнасць у МПР адпадзе сама сабой.



Аляксандра ПАРАХНЯ
alesia.ptushka@gmail.com

## Усходняе партнёрства ў пытаннях і адказах

### 1. Што такое Усходняе партнёрства? Ці азначае гэта сяброўства ў ЕС?

Усходняе партнёрства аб'ядноўвае ЕС, яго краіны-члены і Арменію, Азербайджан, Беларусь, Грузію, Рэспубліку Малдова і Украіну. Апошнія 10 год партнёры разам працавалі над стварэннем агульнай прасторы дэмакратыі, дабрабыту і стабільнасці.

У паўсядзённым жыцці гэта азначае больш моцную эканоміку, больш моцныя дзяржаўныя структуры і вышэйшы давер да іх, больш чыстае навакольнае асяроддзе, бяспечнае і ўстойлівае энергазабеспячэнне, магчымасці для ўсяго грамадства і асабліва для моладзі: па вялікім рахунку, гэта азначае лепшую якасць жыцця для ўсіх.

Усходняе партнёрства не азначае сяброўства ў ЕС, але яно дапамагае пабудаваць больш цесныя адносіны з Еўрапейскім саюзам у той ступені, у якой кожная з краін гэтага хоча.

### 2. Навошта ЕС гэта партнёрства? Чаму ЕС траціць грошы сваіх падаткаплацельшчыкаў на дапамогу іншым краінам?

Выгада Еўрапейскага саюза абсалютна ясная: надзейныя, бяспечныя і заможныя суседзі – гарантыя трываласці, бяспекі і дабрабыту самога ЕС. Як сказаў камісар Еўрапейскай камісіі па палітыцы суседства Ёханэс Хан, «мы павінны экспартаваць стабільнасць... каб не імпартаваць нестабільнасць».

У той жа час Усходняе партнёрства адкрывае доступ да новых рынкаў і да новых спажыўцоў, падтрымліваючы гандлёвыя магчымасці для абодвух бакоў. Партнёрства адкрывае новыя магчымасці для турызму, а таксама для моладзі – як беларускай, так і еўрапейскай – абменьвацца досведам, падарожнічаць і камунікаваць.

Такім чынам, больш моцная Беларусь – гэта і больш моцны Еўрапейскі саюз.

### 3. Ок, навошта ЕС укладвае грошы зразумела. Але як гэта кантралюецца? Куды ідуць гэтыя сродкі і якім чынам яны выдаткоўваюцца?

Фонды ЕС як унутраныя, так і знешнія – прадмет строгага кантролю і справаздачнасці з боку Еўрапейскай камісіі. Працэдуры кантролю і аўдыту працуюць такім чынам, каб можна было максімальна дакладна ацаніць карысць ад праектаў, якія фінансуюцца. Акрамя таго, фінансавы аўдыт кантралюе, ці грошы выдаткаваныя належным чынам.

Барацьба з карупцыяй – адна з галоўных задач супрацоўніцтва ЕС з краінамі-партнёрамі. Таму многія праекты ЕС якраз і накіраваныя на ўмацаванне прававой сістэмы, павышэнне празрыстасці і эфектыўнасці дзяржаўнага кіравання. Паспяховае інвеставанне еўрапейскіх сродкаў спрыяе ўмацаванню эканомікі і грамадства ў кожнай з краін, што ў сваю чаргу з'яўляецца гарантыяй таго, што як беларусы, так і еўрапейцы могуць у поўнай меры карыстацца ўсімі перавагамі больш цеснага супрацоўніцтва.

### 4. Дык у чым канкрэтная карысць для Беларусі?

ЕС з'яўляецца другім гандлёвым партнёрам Беларусі, на долю якога прыпадае амаль трэціна агульнага аб'ёму гандлю, і тавараабарот расце, у 2017 годзе ён павялічыўся на 19%. Амаль 4500 кампаній у Беларусі скарысталіся крэдытамі, трэнінгамі і кансультацыямі пры падтрымцы ЕС, што прывяло да стварэння 4000 новых працоўных месцаў. Дзякуючы падтрымцы ЕС беларусы дыхаюць больш чыстым паветрам, таму што ЕС падтрымлівае намаганні дзяржорганаў па паляпшэнні якасці паветра ў Беларусі.

Тысячы беларусаў падарожнічаюць па Еўропе і прымаюць удзел у абменах, падтрыманых ЕС: амаль 3000 студэнтаў і супрацоўнікаў універсітэтаў маюць магчымасць вучыцца або выкладаць у краінах ЕС ад 2009 года ў рамках праграмы Erasmus+, а больш за 3400 маладых беларусаў сталі ўдзельнікамі моладзевых абменаў, валанцёрскіх і іншых праектаў. Яшчэ 3200 чалавек прынялі ўдзел у кароткатэрміновых прафесійных абменах у рамках праграмы ЕС MOST. А яшчэ, паездкі і абмены неўзабаве могуць стаць яшчэ прасцей, паколькі вядуцца перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму.

### 5. А ў чым карысць для мяне?

Усе магчымасці, якія дае Усходняе партнёрства, даступныя для кожнага беларуса. Вось некалькі прыкладаў. У Навагрудку мясцовая бальніца была абсталяваная 121 квадратным метрам сонечных батарэй для нагрэву вады для радзільнага аддзялення. Фінансаванне ЕС склала 90% кошту. У выніку бальніца кожны месяц эканоміць 8000 еўра на камунальных рахунках. А ў тэксце вы ўжо чыталі, як такой магчымасцю скарыстаўся Аляксандр Кушнер з Ашмянаў.

### 6. А як сачыць за магчымасцямі? Як знайсці тое, што магло б быць карысным для мяне?

Сайт EU NEIGHBOURS адсочвае і публікуе інфармацыю аб усіх існуючых і новых магчымасцях, якія даюцца ЕС. Гэта можа быць трэнінг для жанчын-прадпрымальніц, моладзевы летнік у Берліне, стажыроўка ў Еўрапейскім парламенце або фінансаванне ініцыятыў у галіне энергаэфектыўнасці бізнесу.

Больш аб праектах ЕС у Беларусі можна даведацца на сайце euprojects.by.

Калі вы прадстаўнік малога бізнесу або прадпрымальнік, рэкамендуем зазірнуць на сайт EU4Business – там вы знойдзеце шырокі спектр магчымасцяў для навучання і фінансавання. Маладым людзям, якія цікавяцца абменамі і адукацыяй у ЕС, варта пазнаёміцца са старонкай Нацыянальнага офіса Erasmus+ у Беларусі.

Таксама сачыце за інфармацыяй на сайце Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі і яго старонках у сацыяльных сетках.

### 7. Дзесяць гадоў супрацоўніцтва з ЕС – што далей?

ЕС і яго ўсходнія партнёры вызначылі 20 ключавых мэт, якія павінны быць дасягнутыя ўжо да наступнага года. Вось яны – «20 вынікаў да 2020 года». Працягваецца праца па дасягненні гэтых вынікаў у розных галінах.

## Аляксей Дварэцкі пакінуў пасаду галоўнага трэнера ФК «Смаргонь»

СМАРГОНЬ

Кіраўніцтва клуба задаволіла просьбу галоўнага трэнера і скасавала з ім працоўны кантракт па пагадненні бакоў.

**У бліжэйшы час камандзе прадставяць новага галоўнага трэнера, які будзе рыхтаваць яе да суботняга матча з наваполацкім «Нафтанам».**

Пасля шасці тураў футбольны клуб «Смаргонь» не набраў ніводнага ачка ў чэмпіянаце. Цяпер ён займае апошняе месца ў турнірнай табліцы.

Паводле vk.com/fcsmorgon.

## Каманда смаргонскай гімназіі выйграла шахматны турнір «Белая ладдзя»

СМАРГОНЬ

18 мая аматары шахмат Смаргоншчыны сустрэліся ў цэнтры творчасці на адкрытым рэгіянальным шахматным турніры «Белая ладдзя», каб прадэманстраваць свае навыкі.

Усяго было 28 удзельнікаў – 16 дзяўчынак і 12 хлопчыкаў. Ужо ў другі раз удзельнікамі турніру з'яўляецца каманда з Ашмянскага раёна. Вынікі падводзіліся ў камандным і асабовым заліках.

Камандныя месцы падзяліліся наступным чынам: першае заняла каманда гімназіі г. Смаргоні, другое – каманда гуртка «Адважная пешка» з Ашмянаў, трэцяе – каманда сярэдняй школы №5 Смаргоні.

**Вольга ВАЙЦЯШОНАК,**
**загадчыца аддзела тэхнічнай творчасці і спорту ЦТДіМ.**
**Паводле shliah.by.**

## У Астраўцы правялі аўтамабільнае шоу

АСТРАВЕЦ

У Астраўцы прайшлі першыя ў раёне аўтабаі на выжыванне.

Пейнтбольны клуб у вёсцы Трайгі сабраў шмат людзей: арганізатары аўтабаёў і ўдзельнікі з Астраўца, Смаргоні, Ашмянаў, Шчучына ў гонар 75-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў падарылі сапраўднае свята. А гульнявая зона для дзяцей і фудкорт зрабілі яго яшчэ больш насычаным.

Астравец на аўтабаях прадстаўлялі тры машыны: **Канстанцін Шабан** і яго каманда «Косці» падрыхтавала беласнежны ВАЗ-2101, **Сяргей Букель** і яго тэхпадтрымка «Звяры» выставіла касмічны ГАЗ-21, а каманда «Таксі 7207» і пілот **Алег Белаводскі** зрабілі ўсё магчымае, каб іх агністы ВАЗ-2106 быў лепшы за ўсіх.

Маглі знайсці для сябе занятак па душы і дзеці: яны спускаліся па надзіманых горках, фатаграфаваліся на матацыклах у зоне, дзе спецыяльна для гэтага сваіх жалезных коней «прывязалі» байкеры, а іх выносливасці ў чарзе за надзімаными машынкамі можна было пазайздросціць.

**Вольга ХАЦЯНОВІЧ,**
**паводле ostrovets.by.**

## Дзень работнікаў фізічнай культуры і спорту ў Смаргоні адзначылі шэсцем і парадам

СМАРГОНЬ

Трэцяя субота мая – прафесійнае свята тых, хто прысвяціў сваё жыццё фізкультуры і спорту. Яго адзначаюць трэнеры, выкладчыкі фізічнай культуры, спартсмены.

У Смаргоні свята традыцыйна адзначаюць маштабна. 18 мая па цэнтральнай вуліцы горада ў суправаджэнні ваеннага аркестра Смаргонскай памежнай групы прайшлі ветэраны смаргонскага спорту, ураджэнцы Смаргоншчыны. Яны ўжо праслаўлялі наш рэгіён на абласных, рэспубліканскіх і міжнародных спартыўных пляцоўках. А таксама ішлі трэнеры і выкладчыкі фізічнай культуры, калектывы фізічнай культуры раённых арганізацый і прадпрыемстваў.

На гарадскім стадыёне «Юнацтва» зладзілі святочны парад, на якім ушанавалі ветэранаў смаргонскага спорту, лепшых спартсменаў, іх бацькоў і трэнераў.

**Сяргей ЮРЭВІЧ,**
**паводле shliah.by.**



Гульня выдалася па-сапраўднаму напружанай.

# ФК «Маладзечна» – на другім радку сярод камандаў другой лігі

МАЛАДЗЕЧНА

**У матчы пятага тура чэмпіянату краіны сярод камандаў другой лігі ФК «Маладзечна» прыняў дзяржынскі «Арсенал». Падчас гульні, што прайшла 18 мая, гаспадары саступілі гасцям з лікам 1:2.**



На стадыёне прысутнічала каля 900 гледачоў.

У папярэдніх турах маладзечанскія гульцы ўпэўнена перамагалі сапернікаў. Гэта быў лепшы пачатак сезона ў гісторыі каманды. Першы раз у сёлетнім сезоне ўдача ім не ўсміхнулася.

**Абедзве каманды падышлі да сустрэчы з максімальнымі і аднолькавымі паказчыкамі – па 12 ачкоў у папярэдніх гульнях.**

Барацьба тура аказалася напружанай. Праз 20 хвілін пасля пачатку гульні штрафны ўдар выканаў гулец «Арсенала» **Вячаслаў Глеб**. Ён прайшоў гладка, мяч перайшоў да **Радзівона Субача**. На 35 хвіліне ўдар **Алега Страхановіча** выцягнуў варатар.

За хвіліну да перапынку штрафны прызначылі ля варот маладзечанцаў. І на апошняй хвіліне першага тайма дзяржынскі гулец **Дзмітры Асіпенка** прымусіў заўзятараў цяжка ўздыхнуць – маладзечанцы прапусцілі мяч.

Але ў пачатку другога тайма, на 48 хвіліне, мяч злятае з нагі абаронцы «Арсенала» і скача наўпрост па штрафной. Нападаючы **Ігар Талькоўскі** бяжыць за ім і… раўняе лік. На табло – 1:1. Нагадаем, гулец прыйшоў у каманду сёлета – год гуляў у складзе іншай, – раней ён абараняў колеры маладзечанскага клуба.

Саступаць ніхто не хоча. Маладзечанцы ўпэўнена нервуюць абаронцаў дзяржынскай каманды, тыя – гэтак жа ўпэўнена адбіваюцца. Але… на 73 хвіліне нападаючы гасцей **Мікіта Пацко** кідае мяч міма варатара гаспадароў. Лік – 1:2 на карысць «Арсенала».

На поле выходзіць Фядотаў, Талькоўскага на полі змяняе **Сяргей Галюк**, **Сяргея Дразда** – **Сяргей Крот**. «Крот, рый!» – чуюцца крыкі заўзятараў. Толькі ў апошнія хвіліны тайма гаспадары атрымліваюць шанец адыграцца. Але марна. Маладзечанская каманда церпіць паражэнне.

**Лепшым гульцом матча супраць «Арсенала» ў афіцыйнай суполцы клуба «Укантакце» заўзятары назвалі Талькоўскага.**

Тут жа напісанае, што па пратаколе на знамянальным матчы каманды прысутнічала каля 900 чалавек.

Цяпер маладзечанская каманда знаходзіцца на другім радку турнірнай табліцы другой лігі-2019. Наступны матч футбалісты правядуць на выездзе 25 мая. Гуляць будуць з бабруйскай «Белшынай-2», якая знаходзіцца на пятым месцы табліцы.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Покрыўка з тканіны ці іншага матэрыялу, зробленая па форме якога-небудзь прадмета для захавання яго ад псавання, забруджвання.
6. Папярэдняя аб'ява пра будучыя гастролі, канцэрты.
7. Менавіта ім працаваў Францішак Багушэвіч ад 1869 года ў судзе.
8. Двухкрылыя насякомыя, якія смокчуць кроў чалавека і цеплакроўнай жывёлы.
9. Колькі хочацца, удосталь.
10. Распазнавальны знак дзяржавы, горада, дваранскага роду.
12. Падчас цырымоніі вянчання расійскага імператара Мікалая II перад кожным з 7000 гасцей быў світак, афармлены па малюнку жывапісца Васняцова. Што было ў світку?
13. Заклік, які выражае ў кароткай форме кіруючую ідэю, задачу, патрабаванне.
16. Тое, што павінны выконваць у адпаведнасці з грамадскімі або асабістымі патрабаваннямі.
17. Жаданне есці.
19. Расліна, якую Хрушчоў называў царыцай палёў.
20. Першае слова, якое сказаў Шарыкаў пасля аперацыі ў фільме «Сабачае сэрца».
23. Гумавы ці скураны абутак у выглядзе галёшаў, які надзяваецца пры рабоце ў шахтах, рудніках.
25. Рот звера, рыбы; пашча.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Пасудзіна для піцця віна.
3. У мінулым годзе.
4. Ні адзін, ніякі прадмет, ніякая справа, з'ява.
5. Гэты знакаміты вучоны-фізік карыстаўся шпаргалкай з табліцай множання. Аднойчы не змог прыгадаць лік «пі» і скарыстаўся даведнікам. Калі фізіка папракнулі гэтым, ён адказваў, навошта трымаць усё ў галаве, калі ёсць даведнікі.
9. Колькасць пакошанага сена.
10. Ядавітая змяя шэрага колеру з чорнай зігзагападобнай паласой уздоўж спіны.
11. Любімай стравай пісьменніка Чарльза Дзікенса быў гэты прадукт, добра падсмажаны.
14. У фізіцы – адзінка вымярэння светлавога патоку.
15. Былая вёска Вілейскага раёна, некаторыя вуліцы якой у 2013 годзе ўвайшлі ў межы райцэнтра.
16. Сярэдневяковая ручная кідальная прылада ў еўрапейскіх краінах – удасканалены лук.
18. Пісьмовы знак азбукі, які звычайна абазначае пэўны гук мовы.
21. Пачатак шахматнай партыі, у якой ахвяруюць пешку ці фігуру, каб атрымаць магчымасць хутчэй перайсці ў атаку.
22. Занятак з мэтай забавы, адпачынку.
24. На вялікім базары ў Стамбуле стаіць помнік прадстаўніку гэтай прафесіі. Без вялікай колькасці іх базар не мог бы працаваць.

## Адказы на крыжаванку з №20

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Дакор. 4. Нуда. 7. Аракул. 8. Акварэль. 11. Медзь. 12. Акулы. 13. Алергія. 14. Акадэмія. 19. Зусім. 22. Нястача. 24. Дудка. 27. Сіні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мельнік. 2. Таксі. 5. Начнік. 6. Драма. 9. Значок. 10. Дарадчык. 11. Міліцыя. 15. Гусь. 16. Нерв. 17. Дазатар. 18. Ягайла. 20. Мандрагора. 21. Свінец. 23. Мадэль. 25. Рабат. 26. Адрас.

## ● ГАРАСКОП 24-30 МАЯ

**АВЕН.** Дні будуць звязаны з актыўнай дзейнасцю, якая прынясе вам вялікую карысць, але разам з тым і моцна змарыць вас. Будуць і такія дні, калі вы возьмеце на сябе больш, чым у рэальнасці можаце зрабіць. І хоць вы справіцеся з пастаўленай задачай, стомленасць будзе моцнай.

**ЦЯЛЕЦ.** Вам трэба задумацца пра чалавека, якога вы даўно ўжо цешыце надзеямі. Зоркі раяць узважыць усе аргументы, але прымайце канчатковае рашэнне толькі інтуітыўна. Вы не памыліцеся, трэба толькі прыслухацца да сябе і рызыкнуць.

**БЛІЗНЯТЫ.** Да дня нараджэння зоркі робяць вам каралеўскі падарунак – даюць свабоду дзеянняў. Але і ўсю адказнасць перакладаюць на вашы плечы.

**РАК.** Добры час для ўзнаўлення ўзаемаразумення з партнёрам па шлюбе ці бізнесе. Калі раней у вас былі вострыя рознагалоссі па тых ці іншых пытаннях, то цяпер зможаце спакойна сесці і выслухаць аргументы кожнага.

**ЛЕЎ.** Усе рамантычныя адносіны, якія будуць завязвацца, адыграюць у вашым жыцці больш сур'ёзную ролю, чым можна ўявіць.

**ДЗЕВА.** Можа завяршыцца важны этап у вашай кар'еры, так што не варта спяшацца з прыняццем рашэнняў. Добра ўзважце ўсе шанцы. Вельмі не рэкамендуецца рэзка рэагаваць на выказванні, хай нават цалкам недарэчныя.

**ШАЛІ.** Усё мяняецца, і вы таксама. Не чапляйцеся за мінулае, лепш яго адпусціце. Новае знаёмства дасць магчымасць паглядзець інакш на жыццё і свет вакол вас.

**СКАРПІЁН.** Займіцеся міласэрнасцю. І зусім неабавязкова ўкладвацца матэрыяльна. Вы можаце знайсці спосаб парадаваць іншых і зрабіць чыёсьці жыццё лепшым нават без грошай. Звярніце ўвагу на дробязі, якія не здаюцца вам чымсьці важным. Але менавіта яны якасна ўплываюць на ваша жыццё.

**СТРАЛЕЦ.** Пераадолець цяжкасці і дабіцца добрых вынікаў вы зможаце толькі ў тым выпадку, калі будзеце цярплівыя і перастанеце патрабаваць ад жыцця ўсяго і адразу. Калі ў вас дрэнны настрой, нешта не ладзіцца, то паспрабуйце «пераключыць каналы» – перастройцеся на іншую хвалю, і ўсё пачне атрымоўвацца.

**КАЗЯРОГ.** Паспрабуйце своечасова выконваць узятыя абавязацельствы – так будзе лягчэй пазбегнуць непаразуменняў. Сярод спраў і вялікіх планаў не забывайце пра адпачынак.

**ВАДАЛЕЙ.** Вы экстравагантныя, выдзяляецеся ў любой кампаніі. Але, на жаль, вас адольвае раздражнёнасць, ладзіць з вамі нялёгка. Вы трáціце грошы хутчэй, чым яны паступаюць. Надта вялікія расходы могуць стаць прычынай сямейных рознагалоссяў.

**РЫБЫ.** Ваш шчаслівы дзень – чацвер, асабліва 7, 14, 21, 28 чыслы. Гэтым днём кіруе Юпітэр, які шчодра адорвае людзей міласэрных. Спрыяе аптымістам, людзям высокай маралі. Ён адказвае за грошы. Яны прыйдуць да таго, хто працуе з радасцю і задавальненнем.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | 1 | | 8 | 2 | | | |
| | | 8 | | 4 | | | 7 | |
| | | | | 5 | 7 | | | 1 |
| | 6 | | | | | | 9 | 7 |
| 9 | | | | 7 | 1 | | | |
| | 8 | 3 | | | 5 | 6 | | |
| | | 5 | | | | 2 | 3 | |
| | 3 | | 2 | | 4 | | | 9 |
| 2 | | 6 | | | | | 4 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

● Жыхару Маладзечаншчыны Мікалаю Пракапенку – за 80. Ён жыве на лецішчы, займаецца гаспадарчымі справамі. А яшчэ прыгадвае цяжкае ваеннае дзяцінства, жыццё на цаліне, экспедыцыю ў Антарктыду.

## 25 мая, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 2-3 м/с




Усход 4.53
Захад 21.25
Даўжыня дня 16.32

Усход 2.07
Захад 10.46
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература 0,3°С у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +29,3°С у 1983 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,8 мм у 2010 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## ● ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

***

Шчырасць па-маладзечанску. Цырульня. Плачу за стрыжку. Бачу, што цырульніца назвала суму ў два разы меншую, чым у цэнніку. Пытаюся, ці не наблытала.

– Не, ну ў цябе ж тры валасіны! Не буду ж я за іх як за нармальную стрыжку браць!

***

– Дзевачка, ты нашто мне манеты даеш? Справачку пакажы. Як якую? Са школы. Давай, шукай. Як гэта няма? Забылася, ці што? Ну калі недалёка табе, то едзь так. Я ж бачу, што школьніца.

У каторы раз кандуктаркі маладзечанскіх аўтобусаў ставяць мяне перад цяжкім выбарам: прызнацца, што мне ўжо не 13, або скарыстацца сітуацыяй.

Прызнаюся, ага.

***

Корпаюся ў манетках ля касы. Падыходзіць мужык з душком.

– Дзевачка, дай 50 капеек.

– Не дам.

– Чыво? У цябе ж ёсць, я віжу.

– Вы п'яны, я п'яным грошы не даю.

– Чаго эта сразу п'яны? Дакажы!

– Які сёння дзень?

– ...Ну эта ты загнула!..

## «Рэгіянальная газета» – найлепшы адпачынак пасля працы на лецішчы!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 25 мая вёска Будзішча збірае землякоў

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказала стараста, ураджэнка і жыхарка Будзішча Наталля Дуровіч.**

Па словах Наталлі, сёлета арганізатары вырашылі сабраць не толькі ўраджэнцаў і жыхароў Будзішча, а яшчэ і выпускнікоў школы-васьмігодкі, што знаходзілася ў суседняй вёсцы Суднікі.

– У 1980-я гады школа згарэла. Дзеці сталі хадзіць вучыцца ў Абадоўцы, – распавядае Наталля. – Школа была вельмі добрая. Пры мне дырэктарам быў **Мікалай Кутас**. Яго жонка **Галіна Кутас** выкладала ў нас нямецкую мову і біялогію. Многія выпускнікі кажуць, што і сёння добра размаўляюць па-нямецку дзякуючы Галіне Віктараўне. Кутасаў мы запрасілі на сустрэчу. Запрашэнне яны ўспрынялі з радасцю.

Па словах Наталлі, у суднікоўскай школе вучыліся дзеці з вёсак Крыніца, Будзішча, Баяры, Барсукі. У вёсках было шмат дзяцей.

Сярод вядомых выпускнікоў школы – паэт **Іван Лашутка**, хірург **Аляксандр Дуровіч**, вайсковец-падпалкоўнік **Мікалай Дуровіч**.

**Збірацца на традыцыйную сустрэчу пачнуць 25 мая, у суботу, у 14:00 у Будзішчы на беразе возера.**

Запланавалі пачастунак, гульні, конкурсы. Выступяць артысты з Ільянскага Дома культуры і калектыў аўтарскай песні Галіны Кутас «Імпэт».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якая была ваша любімая кніга ў дзяцінстве?



**Аляксандр Кендыш, галоўны бухгалтар, Маладзечна:**

– У дзяцінстве падабаліся дэтэктывы. З любімага «Альфрэд Хічкок і Тры шпікі». Падабаўся захапляльны сюжэт і тое, што шмат было кніг з гэтымі героямі, нібы чытаў серыял. Усё, што было ў Маладзечанскай бібліятэцы з гэтай серыі, перачытаў.



**Ганна Цімафеенка, навучэнка каледжа, Вілейка:**

– Любіла, калі мне чыталі казкі з добрым канцом, пра каханне і прыгожых прынцэс – «Папялушка», «Беласнежка». У 12 захапілася псіхалогіяй. Любімай кнігай была і будзе «Маленькі прынц». Гісторыя, што закранае сур'ёзныя міжасобасныя адносіны.



**Уладзіслаў Такмакоў, аўтамеханік, Маладзечна:**

– «Прыгоды Нязнайкі і яго сяброў», «Чырвоная шапачка», «Калабок», «Доктар Айбаліт», «Нязнайка на Месяцы». Гісторыі цікавыя і адрозніваюцца адна ад адной, нечаму можна нават павучыцца. Сюжэт цікавы, ды і для таго ўзросту кнігі падыходзілі. Даўно іх не чытаў, ледзь успомніў.



**Святлана Путро, выкладчык, Вілейка:**

– Усё любіла чытаць у дзяцінстве. У школьны час, акрамя зададзенай літаратуры, чытала яшчэ і дадатковую. У школе любімай кнігай быў раман для дзяўчынак «Пацалунак пад дажджом».



**Ганна Скарадзёнак, архівіст, Маладзечна:**

– Навучылася чытаць у чатыры гады. У 1-2 класе любіла міфы і легенды. З любімага – «Легенды Крыма» 1969 года, якія дасталіся ад бацькі. Потым палюбіла фэнтэзі і фантастыку. У дзяцінстве чытала заўсёды, бацькі ледзь не сілай выганялі на вуліцу. Цяпер кожны вечар чытаю сыну казкі.



**Уладзіслаў Карчміт, галоўны механік, Маладзечна:**

– Любіў чытаць «Каламбур», «Адзін дома» і падобныя часопісы, кнігі не вельмі любіў. Любімая кніга – «Кветкі для Элджарнона» – вельмі цікавая развіццём падзей.



**Яўген Навумчык, спецыяліст сектара аховы, Маладзечна:**

– Захапляўся фантастыкай, напэўна, таму, што, як усе хлопчыкі і дзяўчынкі, любіў фантазіраваць. Любімая кніга – «Вартаўнікі лесу».

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№21 (1256) 24.05.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 784. Падпісана ў друк у 9.00 23.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.